Чалавек года Старонка 3

# АЛЕКСІЕВІЧ

№ 48 (933) 23 снежня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## НАЙЛЕПШАЕ 2015

Асобы года Старонкі 3—14

## MERKEL

## КРАМБАМБУЛЯ

НЯМЦОЎ КАРОЛЬ СЫРЫЦА ГРЫЦКЕВІЧ НАДСАН

## ВОЛЬСКІ @ BELAMOVA

## ЧАРКАШЫН

## НАДІЯ САВЧЕНКО

КАЛТОВІЧ ШАМКО ЧАКАНАЎ ШУНЕВІЧ

## BRUTTO

ШЧОТКІНА БАТЭ

## КРУМКАЧЫ

## МАТОЛЬКА

## ДЭНАМІНАЦЫЯ

МІХАЛЕВІЧ КАРАТКЕВІЧ

## СТАТКЕВІЧ

ГАРАЧКА, ЯКАЯ ЗАСТАЛАСЯ СЯДЗЕЦЬ

## КАДЭТЫ

## БЕЛАРУСЬ МАЕ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ

ГРАФІЦІСТЫ ПЯКАРСКІ ЖАРОМСКІ КАСІНЕРАЎ УЛЬЯНЕНКАЎ

#НОБЕЛЬРАЗАМ #NORUSSIANBASEINBELARUS #ПАГОНЯПОБАЧ #STARWARS7 #BELARUS

## БУДЗЕМ РАЗАМ У НЯПРОСТЫЯ ЧАСЫ

# Будзем разам у няпростыя часы

Падыходзіць да канца 2015 год. Цана на нафту ўпала, і дзе дзелася «ўнікальная беларуская мадэль»? І дзе той «рускі свет»? Ідзе на дно і цягне Беларусь за сабой.

У 2014 годзе Усходняя Еўропа з жахам назірала за прывідам новай сусветнай вайны. Але цана на нафту ўпала – і прывід схаваўся.

Так мяняецца свет на нашых вачах, і будзе мяняцца. Вынайдуць новыя крыніцы энергіі. Увойдуць у штодзённы побыт хатнія робаты. Хутка на дарогах масава пачнуць ездзіць беспілотныя аўтамабілі. Штогод вынаходзяць новыя лекі ад хваробаў.

І ў той жа час побач мы назіраем варварства ІДІЛ, ідыятызм вайны ў Данбасе, нахабнае раскраданне народнага багацця алігархамі і альфасамцамі.

Каб Беларусь карысталася здабыткамі прагрэсу, ёй трэба быць з цывілізаваным светам. А фундамент гэтага – мова, гісторыя, культура. «Наша Ніва» працуе для яго ўмацавання.

Вы з «Нашай Нівы» будзеце мець усю інфармацыю: і пра палітыку, і пра фінансы. І пажыву для роздуму ў нас заўжды знойдзеце.

Падпішыцеся на «Нашу Ніву» – падпіску прымаюць толькі да канца тыдня. Падпішыце такса-ма дзядоў, сваякоў. І хай новы год прынясе вам добрае здароўе і ўсё самае светлае.

**Рэд.**



## Gallup: За Лукашэнку галасавала 38% выбарцаў?

Кампанія «Гавары праўду» распаўсюдзіла вынікі паслявыбарчага апытання, праведзенага кампаніяй Gallup/Baltic Surveys.

Паводле вынікаў гэтага даследавання, яўка на сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах склала 74% (51% — у дзень галасавання, 21,5% — датэрмінова, 1,5% — не сталі адказваць, калі прагаласавалі). Па дадзеных ЦВК Беларусі, нагадаем, яўка склала больш за 87%.

Паводле прыведзеных Gallup'ам звестак, Аляксандр Лукашэнка набраў 51% галасоў, Караткевіч — 19%, Сяргей Гайдукевіч — 10%, Мікалай Улаховіч — 3%, супраць усіх прагаласавалі 15% выбаршчыкаў, 2% не змаглі вызначыцца з адказам або не сталі адказваць.

Такім чынам, за Лукашэнку галасавала толькі 38% ад агульнага ліку выбарцаў. Калі б на выбарах быў адзіны кандыдат ад апазіцыі і да прэтэнтаў прыставых галасоў дадаліся б тыя, хто выбары байкатаваў, Лукашэнка не набіраў бы 50%.

Нагадаем, паводле афіцыйных дадзеных, Лукашэнка набраў 83,5% галасоў, Караткевіч — 4,4%, Гайдукевіч — 3,3%, Улаховіч — 1,7%.

**Сяргей Гезгала**

### У Мінску работнік МНС выратаваў жыццё дзяўчыне па дарозе на працу

Раніцай 21 снежня старшы лейтэнант унутранай службы Дзмітрый Паўлюшчык ішоў да месца службы. Пераходзячы дарогу па пешаходным пераходзе на Ігуменскім тракце, выратавальнік заўважыў дзяўчыну, што згубіла прытомнасць, яна ўпала на праезную частку, у яе быў прыступ.

Выратавальнік падняў пацярпелую з праезнай часткі, аднёс на тратуар, паклаў на лаўку і выклікаў хуткую. Затым аказаў першую дапамогу, забяспечыўшы праходнасць дыхальных шляхоў. Са слоў дактароў, своечасова аказаная першая дапамога дазволіла выратаваць жыццё.

З 2011 года Дзмітрый Паўлюшчык працуе ў Рэспубліканскім атрадзе спецыяльнага прызначэння МНС.

**БелТА**

# Хто ўзначаліў Міністэрства гандлю?

Пяць фактаў пра **Уладзіміра Калтовіча**.

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прызначэнні членаў урада. Сярод міністраў змяніўся толькі адзін чалавек. Замест затрыманага Валянціна Чаканава (старонка 10) міністрам гандлю стаў 49-гадовы Уладзімір Калтовіч, хоць многія чакалі, што ведамства ўзначаліць сённяшняя намесніца Ірына Наркевіч.

За апошні год Міністэрства гандлю стала адным з найбольш пазнавальных у медыя, іх праверак баяцца крамы і кавярні. «НН» прыглядзелася, хто ж узначаліў ведамства.

### Працаваў у пасольстве ў Расіі

Калтовіч працаваў намеснікам міністра ў перыяд 2009—2010 гадоў. Аднак апошнім месцам працы Уладзіміра Калтовіча было беларускае пасольства ў Маскве. Там чыноўнік адпрацаваў дарадцам-пасланнікам тры гады. Курыраваў якраз пытанні гандлю.

«Спадар Анішчанка казаў, што Мытны саюз — гэта перш за ўсё рынак. Гэта падкрэслівае жаданне Новай Зеландыі ў любым варыянце атрымаць доступ на гэты малочны рынак. У сувязі з гэтым пытанне — каму тут прадаваць? — становіцца



найважнейшым», — казаў Калтовіч з ноткай крыўды, што беларускае малако трапляе на расійскі рынак зусім не ў тых аб'ёмах, на якія спадзяваўся Мінск.

Яшчэ Калтовіч адзначаў, што ледзьве не кожны пяты беларускі кантракт заключаецца ў Расіі з махлярамі. І ў 2015 годзе сітуацыя з гэтым заўважна пагоршала.

### Родам з Чэрвеня, працаваў ва ўнівермагу «Беларусь»

Уладзімір Калтовіч нарадзіўся 1 кастрычніка 1966 у Чэрвені. Скончыў БДЭУ (1992) і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце (2001).

Калтовіч працаваў намеснікам гендырэктара ў буйных мінскіх крамах: універмагу «Беларусь» і гандлёвым доме «На Нямізе». Быў намеснікам кіраўніка Заводскага раёна Мінска. Узначальваў мінскую гарадскую федэрацыю гандбола.

### Адказваў за перанос Чэрвеньскага рынка

Найбольш публічнай пасадай у біяграфіі Уладзіміра Калтовіча было намесніцтва старшыні Мінгарвыканкама ў часы Мікалая Ладуцькі. Тады сама намеснікам быў Міхаіл Васільеў, якога пасадзілі за хабар.

Уладзімір Калтовіч адказваў за сітуацыю з пераносам Чэрвеньскага рынка. Некаторыя прадпрымальнікі згадвалі яго добрым словам, казалі, каб не Калтовіч, то рынак проста б разагналі, а не перанеслі на іншае месца.

Вуснамі Калтовіча агучвалася рашэнне аб забароне ў Мінску продажу пладова-ягадных напояў, так званага «чарніла». Праўда, літаральна праз пару тыдняў Лукашэнка раскрытыкаваў гэтае рашэнне. І Мінгарвыканкам адкруціў усё назад.

Некалькі разоў за подпісам Калтовіча апазіцыйным актывістам адмаўлялася ў правядзенні вулічных акцый.

### Карыстаецца фэйсбукам і «Укантакце»

На Захадзе, ды нават у Расіі ці Украіне, уявіць палітыка ці ўрадоўца без фэйсбука ці твітара сёння фактычна немагчыма. У Беларусі ж чыноўнікі ўсё яшчэ з недаверам ставяцца да сацыяльных сетак. Некаторыя хіба што маюць акаўнт у «Аднакласніках».

Уладзімір Калтовіч у гэтым плане, здаецца, мае іншы падыход. Ён, прынамсі, зарэгістраваны ў фэйсбуку. Адказвае на каментары на сваёй старонцы.

Напрыклад, дырэктар гатэля «Нёман» Міхаіл Малікін, убачыўшы афіцыйны здымак Калтовіча, падтрольвае: маўляў, вадзічку варта было б замяніць на айчынную. Калтовіч адказвае: «Перадам вашу заўвагу масквічам. А можа, адразу дашлі «Нёманскай». Два эшалоны». А на іншую заўвагу, калі вяртаецца ў Мінск, Калтовіч адказаў: «Як Бог дасць».

### Дзе жыве?

Доўгі час Калтовіч жыў у Чыжоўцы, а з цягам часу займеў трохпакаёўку плошчай 67 м² на вуліцы Жукоўскага, зусім побач ад праектаванай станцыі метро «Кавальская Слабада». У 2000 дом пабудавала долевым спосабам Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама.

**Зміцер Панкавец**

## Сціслa

### Праезд на чыгунцы даражэе на траціну

Тарыфы выраcтуць 26 снежня. Падаражанне закране праезд на гарадскіх і рэгіянальных лініях эканомкласа, на рэгіянальных лініях бізнэс-класа, міжрэгіянальных лініях, таксама перавозку багажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях чыгункі.

### Ніводзін тэлеканал не пакажа звароту Пуціна

Абсурдная практыка, калі беларусаў віншаваў кіраўнік замежнай краіны, адыходзіць у небыццё. Беларускі і расійскі час цяпер супадаюць, і ўсе тэлеканалы будуць трансляваць зварот Аляксандра Лукашэнкі.

### Ярмошына здзейсніла ўзыходжанне на Везувій

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына вярнулася з Італіі, дзе тыдзень адпачывала з сынам. Два дні яна правяла ў Рыме, пасля накіравалася ў Неапаль, дзе ўзнялася на вулкан Везувій. Адтуль Ярмошына дабралася да Венецыі. Уся паездка без уліку авіябілетаў каштавала ёй 2000 еўра.

### Кіраўнікі футбола зганьбіліся

Прэзідэнт ФІФА Ёзэф Блатэр і кіраўнік УЕФА Мішэль Плаціні на працягу васьмі гадоў не маюць права займацца футбольнай дзейнасцю. Падставай для гэтага рашэння стаў перавод Блатэрам плацяжу ў памеры каля $2,3 мільёна на рахунак Плаціні. Мяркуецца, узамен той зняў сваю кандыдатуру на выбарах прэзідэнта ФІФА.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

### Ці задаволеныя Вы хуткасцю інтэрнэту ў Беларусі?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 137 | 11% |
| Не | 704 | 56% |
| Мне няма з чым параўноўваць | 236 | 19% |
| Маеш грошы — то маеш і хуткасць | 181 | 14% |

Усяго прагаласавала 1258 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 16 — 22 снежня

1 Дзве цытаты Пуціна з прэс-канферэнцыі, каб усё ведаць пра гэтага чалавека

2 Студэнткі-вясляркі з University of Warwick выдалі голы каляндар

3 У цэнтры Мінска маладога чалавека ўдарылі нажом за заўвагу аб паркоўцы

4 «Да яе ніяк не даходзіла, што такое «вобраз народу»: настаўнікі з малой радзімы Алексіевіч асуджаюць яе, а трактарысты — ганарацца

5 Ірыну Кабасакал аблічылі на стронзе

6 19-гадовы сын расійскага мільярдэра забіў уласную маці

7 «Артыст, б…! Брахло! Свалата!»: з'явілася відэа сваркі Авакава і Саакашвілі на нарадзе ў Парашэнкі

8 Ксенія Сабчак прыйшла на прэс-канферэнцыю Пуціна ў касцюме зебры

9 Расійская Мата Хары: журналістка аказалася шпіёнкай Крамля?

10 Народжаны прапагандай: расейскія тэлеканалы зрабілі сабе апанента




# Асобы года

Людзі, дзякуючы якім мы запомнім **2015 год**.

### Чалавек года — Святлана Алексіевіч

Упершыню беларуска атрымала найбольш прэстыжную ўзнагароду ў літаратурным свеце — Нобелеўскую прэмію. Трыумфаторкай стала Святлана Алексіевіч. Яна не першы год фігуравала ў спісах прэтэндэнтаў. За гэтыя гады мы ўбачылі імклівую трансфармацыю Алексіевіч.

Як і многія, Святлана Алексіевіч адчувала сябе і рускай, і беларускай. Было цікава бачыць, як яна — як і многія — з гадамі стала адчуваць сябе найперш беларускай. І які гонар быў для ўсёй краіны — у нас з'явіўся свой Нобель! І як прыемна было чуць: «Я чалавек беларускага свету». Які ёмісты і нечаканы выраз знайшла вялікая пісьменніца на сваёй першай прэс-канферэнцыі: «Беларускі свет».

Першую прэс-канферэнцыю — для нас гэта асабліва ганарова — яна правяла ў маленькай рэдакцыі «Нашай Нівы». Мы цяпер усім паказваем жоўты фатэль, у якім сядзела Алексіевіч тады — увогуле то крэсла намесніка рэдактара Ягора Марціновіча.

Алексіевіч сказала, што лічыць сваімі настаўнікамі Адамовіча і Быкава, таму ў нейкай ступені гэтая прэмія і для іх таксама. Выратаванне для Беларусі яна бачыць у павяртанні ў бок Еўрасаюза, але не верыць, што Расія адпусціць нас. «Я б хацела, каб Беларусь была падобная калі не да Скандынавіі, гэта ўвогуле мара, то хаця б да Прыбалтыкі».

Вайну ва Украіне яна адкрыта называе расійскай агрэсіяй, акупацыяй. За гэта ёй і дасталося ў Расіі. Кожны тыдзень у тамтэйшых СМІ на яе выліваюць тоны бруду і паклёпаў. Алексіевіч на гэта адказвае, што гэтаксама шальмавалі Салжаніцына і Пастарнака. Шчасце, што, у адрозненне ад тых, не могуць яе дастаць цяпер — рукі кароткія.

Беларускім уладам хапіла розуму не канфрантаваць з пісьменніцай. Хоць Лукашэнка і не абышоўся без пары крытычных стрэлаў, яны абралі тактыку татальнага ігнаравання. Алексіевіч няма. Яе не сустракалі ў аэрапорце, не запрашалі на прыёмы. Нават дэвальваваным, на жаль, ордэнам Скарыны, які ўжо атрымлівалі і жук і жаба, не ўзнагародзілі. Ну што ж...

Далёка не кожная еўрапейская нацыя мае сваіх нобелеўскіх лаўрэатаў. Няма іх у балтыйскіх народаў, няма ва ўкраінцаў, балгараў, румынаў. Дзіўна, але ніводзін пісьменнік з Галандыі, Бразіліі ці Аргенціны Нобеля не атрымліваў, а Беларусь мае.

Затое простыя людзі адрэагавалі на Нобель Алексіевіч вельмі пазітыўна. Без усялякай разнарадкі зверху сотні людзей прыехалі сустрэць пісьменніцу ў аэрапорт, каб проста падарыць кветкі і сказаць дзякуй.




### Кіраўнік года — Ангела Меркель

Чалавекам года нямецкую канцлерку назваў папулярны амерыканскі часопіс *Time*. У гэтым ашалелым (як нядаўна казаў Лукашэнка) свеце не многія лідары здольныя захоўваць цвярозасць думак і цвёрдасць у дзеяннях. Меркель была адной з тых, хто ўсяляк імкнуўся не дапусціць у свеце вялікай крыві і вайны. Яна не самаўхілялася ад вырашэння канфліктаў, гаварыла з усімі. Прыязджала нават у Мінск, каб спыніць вайну ва Украіне. Мабыць, міратворчыя дзеянні Меркель яшчэ будуць высока ацэненыя.

### Сыход года — Аляксандр Надсан



У такіх выпадках прынята гаварыць, што чалавек пражыў доўгае і цікавае жыццё. Аляксандр Надсан прайшоў вайну, эміграцыю. Ён быў прадаўжальнікам справы святароў Льва Гарошкі і Чэслава Сіповіча. У той час, калі ў Савецкай Беларусі гэта і блізка было немагчыма, у Лондане паўстаў унікальны куток беларушчыны — з бібліятэкай, царквой, дамком. Апекуном усяго гэтага быў айцец Надсан. І ў замежжы, і ў Беларусі гэты чалавек з выдатным пачуццем гумару і выключнай вернасцю Бацькаўшчыне незаменны.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Вызвалены года — Мікалай Статкевіч

4,5 года ў зняволенні, але Статкевіч так і не зламаўся, не здаўся. Статкевіч не падпісаў прашэння аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Ён выйшаў на волю пераможцам, героем. Статкевіч застаецца ранейшым, не здраджвае сабе. Толькі за тыя паўгода, што ён на волі, вулічных акцый у Мінску прайшло болей, чым за ўвесь час ад Плошчы-2010. Мужнасці гэтаму чалавеку не бракуе.

### Ахвяры года — Надзея Саўчанка і Барыс Нямцоў

Напрыканцы зімы ў Маскве забілі палітыка Барыса Нямцова. Забілі цынічна і нахабна, пад самымі сценамі Крамля. Але такое «супадзенне», што ў той дзень відэакамеры, якімі проста нашпігаваны той раён, «не дзейнічалі».



Працяг на старонцы 4.

Працяг са старонкі 3.

Нямцоў быў бязлітасным крытыкам пуцінскай Расіі. Ён не падладжваўся, не поўзаў, не з'язджаў з краіны. Нямцоў не меў вялікай папулярнасці, але ўсё адно раздражняў. Дзяржаўныя расійскія тэлеканалы выдумлялі самыя дурныя версіі забойства, але не агучылі той, якая круціцца ўва ўсіх на языку: што за гэтым могуць стаяць улады.

У дзень забойства Нямцова нягоднікі распаўсюджвалі чуткі, што ў турме памерла ўкраінская лётчыца Надзея Саўчанка. Фактычна гэтая 34-гадовая жанчына стала сімвалам супраціўстаяння Украіны і Расіі. У 2014 годзе яе ўзялі ў палон расійскія баевікі і незаконна вывезлі ў Расію. Саўчанка не прызнае сваёй віны, трымаецца свайго. Пятро Парашэнка надаў ёйзванне «Героя Украіны». Суд над Надзеяй працягваецца.

Святлана Алексіевіч назвала Саўчанку «ўкраінскай Жаннай д'Арк».

# Асобы года




### Аддаў жыццё за братоў — Алесь Чаркашын

2015 год прынёс першую ахвяру сярод беларусаў, якія паехалі ваяваць за Украіну. У жніўні не стала 33-гадовага берасцейца Алеся Чаркашына. Яму больш камфортна было трымаць у руках гітару, а не зброю. Аднак, калі пачалася вайна на ўсходзе Украіны, ён не змог заставацца абыякавым.

Пахавалі Алеся пад бел-чырвона-белым сцягам пад Брэстам, на развітанне прыйшлі сотні людзей, якія праводзілі хлопца словамі: «Героі не ўміраюць».


Чаго дабілася?

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Кандыдат года — Таццяна Караткевіч

Пакуль большасць апазіцыі выбары байкатавала, пратэставыя галасы сабрала нікому раней не вядомы псіхолаг Таццяна Караткевіч. Уладам патрэбен быў кандыдат ад апазіцыі, які б не заклікаў да вулічных пратэстаў, і ў асобе Караткевіч яны такога атрымалі. У выніку апазіцыйная супольнасць успрыняла Караткевіч насцярожана, а вось дзяржаўныя структуры, наадварот, хвалілі.


Гонар маем!

Караткевіч свядома адмовілася ад рэзкай крытыкі Лукашэнкі, як робяць Лябедзька ці Статкевіч. Стаўка яе і каманды была найперш на той электарат, які прынята называць «балотам» — тых, хто яшчэ не вызначыўся.

Калі меркаваць па тых участках, дзе падлік галасоў быў праведзены празрыста, можна меркаваць, што Караткевіч набірала 20—25% галасоў. Гэта дастаткова шмат. Наступныя гады пакажуць, ці зможа Караткевіч скарыстаць такую падтрымку, ці была кандыдатам-аднадзёнкай.

### Клуб года — «Крумкачы»

Прыгожая гісторыя пра тое, як можна рэалізоўваць уласныя мары. Трое энтузіястаў-фанатаў сустрэліся на форуме і амаль па прыколе сказалі: давайце зробім футбольны клуб. Давайце. Назву прыдумалі прыгожую, беларускую — «Крумкачы». Не прайшло і двух гадоў, як гэтая каманда заваявала права гуляць у вышэйшай лізе. Стваральнік каманды Дзяніс Шунто патраціў на «Крумкачоў» 150 тысяч даляраў, пры гэтым не мае кватэры ў Мінску і ездзіць на матчы на тралейбусе. Такіх падзвіжнікаў нямнога ва ўсіх сферах. «Крумкачы» — гэта клуб, якому хочацца суперажываць.

### Камісар года — Ігар Шуневіч

Парад на 9 Мая міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч прымаў у форме камісара рабоча-сялянскай міліцыі НКВД. І гэта ў 2015 годзе, калі большасць архіваў даўно адкрытыя, калі выйшлі сотні кніг пра злачынствы НКВД, у тым ліку пра мінскія Курапаты. Мякка кажучы, бяздумны ўчынак міністра.

### Ражаныя года — казакі

Яны не маюць ніякага гістарычнага падмацавання сваёй дзейнасці на тэрыторыі Беларусі, але называюць сябе генераламі, атаманамі, вешаюць фальшывыя медалі і ордэны. Здавалася б, хай гуляюцца дарослыя мужыкі, чым бы ні цешыліся... Аднак гульні псеўдаказакоў часам выходзяць на новы небяспечны ўзровень.

«Наша Ніва» сёлета раскрыла, якую ідэалогію спрабуюць прышчапіць моладзі казацкія


Верым, можам!

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

інструктары. Многія з іх не прызнаюць дзяржаўнасць Беларусі, а бачаць нашу краіну як частку Расіі. І такія вось «казакі» прыдумляюць трэніроўкі ў лясах са зброяй, набіваюцца ў сябры да сілавікоў. Здавалася б, прыклад Украіны мусіў нечаму навучыць.

Пасля публікацый «Нашай Нівы» самых безгаловых трохі патрэслі, і гэта добра.

### Мужчыны года — навучэнцы Ястрамбельскага вучылішча

Чацвёра хлопцаў з Ястрамбельскага кадэцкага вучылішча сфоткаліся ў майках з «Пагоняй», якія яны носяць пад афіцыйнай формай. А фотаздымак выклалі ў інтэрнэт. Падняўся скандал, кадэтаў ледзь не выключылі з установы. Але магутная хваля салідарнасці ўсё ж не дала хлопцаў у крыўду. Нават Міністэрству адукацыі давялося апраўдвацца: не-не, мы нікога не выключаем. «Гэтыя хлопцы як зорачкі, што свецяць у цемры», — сказала пра сітуацыю Святлана Алексіевіч.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Годнасць года — Наталля Гарачка

Назіральніца Наталля Гарачка не ўстала і не падала рукі Аляксандру Лукашэнку, калі той прыйшоў на ўчастак для галасавання. «Я паказала стаўленне да яго простых людзей», — сказала Гарачка «НН». Рэдкі па сваёй смеласці ўчынак у краіне, дзе крытыка галоўнага чыноўніка краіны перастала гучаць, а гэта вядзе да застою.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Дарадчыца года — Мар'яна Шчоткіна

Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна параіла беларусам, якія не задаволеныя сваім дабрабытам, працаваць на дзвюх работах. «Мы паглядзелі, што амаль 93% беларусаў працуюць толькі на адной працы, а гэта і мужчыны. Але калі мама займаецца дома дзецьмі, дык хай тата «пакруціцца», — патлумачыла Шчоткіна. Праўда, не ўдакладніла, ці круціцца яна сама, ці робіць яе муж на дзвюх працах. Зрэшты, на свой дабрабыт міністр наўрад ці скардзіцца: сёлета яна дабудавала катэдж у Драздах.

Пасля, праўда, Шчоткіна стала браць свае словы назад.

Была яна, да слова, кіраўніком перадвыбарчага штаба Аляксандра Лукашэнкі.

### Графіцісты года — Пякарскі, Жаромскі, Касінераў, Ульяненкаў

Чатырох хлопцаў людзі ў масках брутальна затрымалі за графіці «Беларусь мае быць беларускай». Аднаму — Вячаславу Касінераву — аж сківаць зламалі. «Затрымлівалі нібыта нейкіх наркабаронаў», — дзяліўся Яраслаў Ульяненкаў. Месяц іх пратрымалі ў турме і толькі пад паляпшэнне адносін з ЕС вызвалілі пад падпіску. Справа ўсё яшчэ не закрытая і мае адбыцца суд.

### Вяртанец года — Алесь Міхалевіч

Калі чалавек з'ехаў і пражыў некалькі гадоў за мяжой, яму цяжка вярнуцца назад. З палітычных прычын з'ехалі ўжо сотні чалавек, вярнуліся толькі дзясяткі.

Экс-кандыдат Алесь Міхалевіч з'ехаў у Чэхію пасля выбараў 2010. Перад гэтым ён агучыў звесткі пра катаванні ў турме КДБ, расказаў, што падпісаў дакумент аб супрацоўніцтве са спецслужбамі.

Чатыры гады Міхалевіч пражыў за мяжой, не пакідаючы надзеі вярнуцца. Для вяртання падабраў зручны час, калі на волю выйшлі ўсе палітвязні. Набіраць новых уладзе не было рэзону. Добры прыклад для іншых палітэмігрантаў. Бо наша краіна — Беларусь. Адна на ўсіх і назаўжды.

### Велікадушнасць года — Дзмітрый Строцаў

Расейскамоўны беларускі пісьменнік Дзмітрый Строцаў сёлета выказаў прыгожую ідэю. Ён звярнуўся да расійскамоўных інтэлектуалаў краіны з прапановай да свядомага «самаўмалення» рускай культуры дзеля адраджэння беларускасці.

«Мы павінны дапамагчы тым расейскамоўным аўтарам Беларусі, якія яшчэ не зусім адарваліся ад каранёў, перайсці з рускай на беларускую. Гэта годна, гэта па-хрысціянску, гэта — кеносіс. Нельга скнарнічаць», — напісаў Строцаў. Заклік Строцава — гэта каштоўны маральны жэст, рэдкасны на планеце, дзе часцей адбываецца вайна культур.

### Музыкі года — «Крамбамбуля»

Лявон Вольскі зноў на вышыні. Новы альбом «Крамбамбулі» «Чырвоны штраль» быў выдатна сустрэты як слухачамі, гэтак і экспертамі. Многія пачулі ў «Штралі» ноткі таго самага старога-добрага NRM з Лявонам. У Беларусі Вольскі па-ранейшаму не мае іншай пляцоўкі, апроч канцэртаў у падземных пераходах, таму вымушаны граць у Вільні. Вось хто-хто, а Лявон Вольскі з «Крамбамбуляй» дакладна сабралі б «Мінск-Арэну».

**Зміцер Панкавец**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Людзі года «НН» у папярэднія гады**

2005 — палітык Аляксандр Мілінкевіч

2006 — чалавек Плошчы

2007 — маладафронтавец

2008 — трэнер Віктар Ганчарэнка

2009 — Наталка Васілевіч і іншыя дабрачынцы

2010 — падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў

2011 — музыка Сяргей Міхалок

2012 — людзі, што вярнулі ў Беларусь Статут ВКЛ: Аляксей Бацюкоў, Зміцер Яцкевіч, Андрэй Радкоў

2013 — беларускамоўныя дзеці

2014 — Франак Вячорка і іншыя папулярызатары вышыванкі

### Яны адышлі ад нас за 2015 год

**Васіль Лявонаў** — былы міністр сельскай гаспадаркі, палітвязень
**Тадэвуш Канвіцкі** — польскі пісьменнік
**Тамара Бірыч** — афтальмолаг, заслужаная доктарка Беларусі
**Мікалай Тарасюк** — народны майстар
**Анатоль Грыцкевіч** — гісторык
**Абдала Бэн Абдэль Азіз Аль Сауд** — кароль Саудаўскай Аравіі
**Дэміс Русас** — грэчаскі спявак
**Колін Маккалаў** — аўстралійская пісьменніца
**Уладзімір Нярозя** — бізнэсмен, уладальнік універсама «Юбілейны»
**Андрэй Кузьменка** — украінскі музыка, гурт «Скрябін»
**Лідзія Арабей** — пісьменніца
**Леанард Німой** — амерыканскі акцёр
**Барыс Нямцоў** — расійскі палітык
**Аляксей Лужынскі** — грамадскі актывіст, Вілейка
**Павел Бандзіч** — рэжысёр
**Тэры Пратчэт** — брытанскі пісьменнік
**Валянцін Распуцін** — расійскі пісьменнік
**Генадзь Старыкаў** — музыка
**Аркадзь Арканаў** — расійскі сатырык
**Тумас Транструмер** — шведскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі
**Уладзімір Лялькоў** — вязень сталінскага ГУЛАГа
**Уладзімір Сараб'янаў** — рэстаўратар Полацка
**Аляксандр Доўбік** — вязень сталінскага ГУЛАГа
**Гюнтэр Грас** — нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі
**Аляксандр Надсан** — апостальскі візітатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа
**Уладзімір Содаль** — літаратуразнаўца
**Марыя Лукашук** — выкладчыца беларускай мовы
**Вова Банько (Ярыла Пшанічны)** — паэт, перформер
**Леанід Сушчэня** — былы прэзідэнт Акадэміі навук
**Аляксандр Міцкевіч** — дзеяч эміграцыі, пляменнік Якуба Коласа
**Мая Плісецкая** — славутая расійская балерына
**Алег Грамыка** — заснавальнік партыі зялёных
**Крыстафер Лі** — брытанскі акцёр
**Жанна Фрыске** — расійская спявачка
**Барыс Мускі** — грамадскі актывіст
**Яўген Прымакоў** — расійскі разведчык і палітык
**Амар Шарыф** — егіпецкі акцёр
**Сяргей Друшчыц** — архітэктар, рэстаўратар
**Алег Луцэвіч** — мастак
**Генадзь Селязнёў** — расійскі палітык
**Марыя Ганько** — дзяячка эміграцыі, Таронта
**Андрэй Харкавец** — былы міністр фінансаў
**Рэгіна Бакуновіч** — удава пісьменніка Валянціна Тараса
**Алег Гардынец** — оперны бас
**Георгій Скрыпнічэнка** — мастак
**Сяргей Журавель** — народны артыст Беларусі
**Леў Дураў** — расійскі акцёр
**Ала Канапелька** — паэтка
**Ніна Корсак** — дзяячка эміграцыі, першая жонка Барыса Кіта
**Алесь Чаркашын** — актывіст, змагаўся ва Украіне
**Вера Чуйко** — актывістка БНФ
**Уладзімір Кішкурна** — грамадскі актывіст
**Аляксей Кароль** — журналіст, гісторык
**Міхай Валанцір** — малдоўскі акцёр
**Уладзімір Абушэнка** — сацыёлаг
**Сяргей Пазняк** — галоўны рэдактар «Камп'ютарных вестак»
**Алесь Савіцкі** — пісьменнік
**Ала Бабкова** — кінакрытык
**Мікалай Барысевіч** — былы прэзідэнт Акадэміі навук
**Віктар Сырыца** — грамадскі лідар, Баранавічы
**Георгій Юнгвальд-Хількевіч** — расійскі рэжысёр
**Гельмут Шміт** — былы канцлер Германіі
**Анатоль Лукоўскі** — беларускі бібліяфіл, Санкт-Пецярбург
**Канстанцін Перапяліца** — заслужаны артыст Беларусі
**Мікалай Касцюк** — дзеяч эміграцыі
**Глеб Маліноўскі** — каліновец, лютніст
**Андрэй Гіро** — пасол Беларусі ў Германіі
**Юры Рыжы** — архіепіскап аўтакефальнай народнай царквы
**Эльдар Разанаў** — расійскі рэжысёр
**Раман Мазурэнка** — заснавальнік сацыяльнай платформы Stampsy

# Суд адабраў у міністра спорту кватэру, набытую па заніжанай цане

**Аляксандр Шамко** страціў як мінімум $38 тысяч.

«Міністр спорту купіў чатырохпакаёўку па цане, ніжэйшай за рынкавую» — артыкул пад такім загалоўкам быў апублікаваны ў «Нашай Ніве» ў маі 2015 года. Былы пажарнік Аляксандр Шамко ў апошні момант ускочыў у будоўлю на вуліцы Янкоўскага ў Мінску.

### Праблемны дом «Маналітграда»

Дзяржаўны забудоўшчык «Будтэх» (пасля рэарганізаваны ў «Маналітград») узводзіў адзін з самых праблемных аб'ектаў горада. Кампанія даволі хутка набрала дольшчыкаў, аднак будаваць не спяшалася. Працэс часта спыняўся, а супраць кіраўніцтва «Маналітграда» заводзіліся крымінальныя справы.

Адным з дольшчыкаў быў Аляксей Ранейскі, 38-гадовы дырэктар кансалтынгавай кампаніі «ФБК-Бел», сябра метадалагічнай рады па аўдытарскай дзейнасці Міністэрства фінансаў. Ён заключыў дамову аб будаўніцтве чатырохпакаёўкі плошчай 92 м2. Фінансіст заплаціў патрэбныя грошы, тым самым цалкам выканаўшы свае абавязальніцтвы, і проста чакаў ключоў.

Аднак чакаць давялося доўга. Паводле дамовы, забудоўшчык абяцаў здаць дом у эксплуатацыю ў чэрвені 2011 года. Калі б «Маналітград» прытрымліваўся графіка, дэвальвацыя нямоцна ўдарыла б па будоўлі. Але гэта быў іншы выпадак. Таму дольшчыкаў папрасілі даплаціць. Цана падскочыла істотна, за самыя вялікія кватэры даплата складала да $10 тысяч. Людзі, натуральна, абурыліся. Большасць усё ж заплаціла, разлічваючы паскорыць будоўлю.

Спадзеў быў марным, «Маналітград» па-ранейшаму марудзіў, дом з горам напалам здалі ў эксплуатацыю толькі ў 2013 годзе, і тое не цалкам.

### Два гаспадары адной кватэры

Былі і тыя, хто не стаў даплачваць, бо палічыў патрабаванні забудоўшчыка незаконнымі. Сярод іх і згаданы вышэй Аляксей Ранейскі. Тады «Маналітград» у аднабаковым рэжыме разарваў дамовы з такімі дольшчыкамі, паабяцаўшы аддаць раней сплачаныя грошы.



**Фінансіст Аляксей Ранейскі адсудзіў кватэру ў міністра.**



**Для Аляксандра Шамко выгадная інвестыцыя абярнулася правалам.**



ONLINER.BY

**Хоць дом і здалі ў эксплуатацыю, гаспадары офісаў і ўласнікі месцаў на падземным паркінгу дагэтуль чакаюць аплачаныя квадратныя метры.**

**Аляксандр Шамко**

Нарадзіўся ў 1968 у Мінску. Скончыў Мінскі політэхнічны тэхнікум (1987), Камандна-інжынерны інстытут МНС (2000), Акадэмію кіравання (2009).

Служыў у войску (1987–1989), у органах і падраздзяленнях па надзвычайных сітуацыях (1989–2012). Начальнік рэспубліканскага атрада спецыяльнага прызначэння МНС (2007–2008), намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях (2008–2012).

Міністр спорту і турызму (з 2012).

Вярнуць мусілі праіндэксаваныя сумы, аднак для дольшчыкаў гэта ўсё адно было нявыгадна. За свае кватэры яны ўжо заплацілі па «старым» курсе, а атрымалі б кампенсацыю па «новым».

«Маналітград» не прыдумаў нічога лепшага, чым адразу ж перапрадаць чатырохпакаёўкі, вызваленыя ад несаступлівых дольшчыкаў.

Менавіта тады, вясной 2014 года, пакупніком кватэры, дамову на якую меў Ранейскі, стаў міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко. Жыллё ён браў ужо ў гатовым будынку — ніякіх рызыкаў недабудаванага дома. Квадратны метр каштаваў міністру $1134 у эквіваленце, і гэта была выгадная ўгода.

Нагадаем, на той момант у Мінску не было ніводнай новабудоўлі, таннейшай за $1250 за квадратны метр, і гэта ў дамах, у якія можна засяляцца толькі праз год-два! А на другасным рынку сярэдняя цана складала $1650 за метр.

Шамко тады адмовіўся каментаваць «Нашай Ніве» абставіны ўгоды, параіўшы звяртацца да свайго адваката.

Пакупніцай другой «вызваленай» кватэры была мінчанка Маргарыта Крывіцкая. У інтэрв'ю Onliner.by яна патлумачыла, што мела двухпакаёўку ў тым жа раёне Сухарава. Даведаўшыся, што прадаецца надзвычай танная чатырохпакаёўка, яна хутка прадала старую кватэру і набыла новую, у доме на Янкоўскага. Улічваючы цэны на рынку, даплаціць ёй давялося няшмат.

Крывіцкая кажа, што проста ўбачыла аб'яву аб продажы.

### Супрацьлеглыя рашэнні суда

Першасныя дольшчыкі таксама не спалі ў шапку. Праўда, першы суд у кастрычніку 2014 года Віталь Гурыновіч — гэта «яго» кватэра дасталася Крывіцкай — прайграў. У чым быў сэнс спрэчкі паміж ім з аднаго боку і «Маналітградам» з Крывіцкай з іншага?

Забудоўшчык высылаў дольшчыку заказныя лісты з патрабаваннем альбо падпісаць дадатковае пагадненне (а значыцца, даплаціць каля $10 тысяч), альбо адмовіцца ад падпісання (і фактычна пагадзіцца на разрыванне дамовы і вяртанне грошай са стратамі). Гурыновіч жа знайшоў шчыліну ў заканадаўстве. Ён проста не атрымліваў гэтыя лісты ад забудоўшчыка, а значыцца, не меў і дадатковага пагаднення і не мусіў даплачваць грошы.

Аднак суддзя Партызанскага раёна трактавала закон па-свойму. Яна заявіла, што Гурыновіч «не прадаставіў доказаў таго, што карэспандэнцыя не была ім атрымана». І пастанавіла пакінуць кватэру Крывіцкай. Дольшчык абскардзіў рашэнне, і Мінскі гарадскі суд адправіў справу на перагляд.

Праз год, у верасні 2015 года, сітуацыя перавярнулася. Той самы суд Партызанскага раёна прыняў супрацьлеглае рашэнне: паколькі Гурыновіч не атрымліваў прапановаў аб даплаце, разрываць ягоную дамову было нельга. А значыцца, кватэру трэба аддаць яму, а Крывіцкай выплаціць кампенсацыю. У такім выпадку ў відавочным мінусе застаецца ўжо яна, таму рыхтуе апеляцыю. Кватэра тым часам знаходзіцца пад забаронай на адчужэнне.

### Міністр змірыўся

Падобным чынам сітуацыя разгортвалася і ў сітуацыі з кватэрай Шамко, першасным дольшчыкам якой быў Ранейскі.

У пачатковым рашэнні суда пазначана, што менавіта міністр застаецца праваўласнікам кватэры. Аднак у выніку абскарджванняў гарадскі суд вярнуў жыллё Ранейскаму.

Прычым калі ў Гурыновіча і Крывіцкай спрэчкі працягваюцца, то Шамко змірыўся са стратай кватэры. Рашэнне наконт жылля Ранейскага ўступіла ў сілу, у жніўні 2015 года яго жонка стала паўнавартаснай гаспадыняй кватэры.

Праўда, Ранейскім усё ж давялося даплаціць «Маналітграду» тыя грошы, наконт якіх вялася спрэчка некалькі гадоў таму, — каля $10 тысяч.

### Колькі вернуць Шамко?

Маргарыце Крывіцкай «Маналітград» павінен вярнуць 1,2 мільярда рублёў (каля $64,5 тысячы ў эквіваленце). Нагадаем, у свой час яна заплаціла за кватэру каля 1 мільярда рублёў (тады гэта было каля $100 тысяч). То бок фактычных стратаў — каля $35 тысяч.

У Шамко сітуацыя падобная. Праўда, ягоная кватэра на 4 м² большая (і знаходзіцца раўнютка над кватэрай Крывіцкай — пытанне пра якасць будаўніцтва). Таму і сумы ў яго крыху большыя. Такім чынам, міністр атрымаў стратаў прыблізна на $38 тысяч.

З ростам курса даляра сума стратаў будзе павялічвацца. Каму вернуць грошы і ў якія тэрміны — загадка.

«Маналітград» фактычна збанкрутаваў і мае $2 мільёны доўгу. Былым кліентам трэба чакаць, пакуль распрададуць маёмасць кампаніі. З гэтых грошай і будуць выдаваць кампенсацыі.

**Ягор Марціновіч**

# Якія сеткі крамаў самыя танныя і самыя дарагія?

Традыцыйна ў снежні «Наша Ніва» параўноўвае цэны ў найбуйнейшых сетках краіны і вызначае самыя танныя і самыя дарагія з іх.

За мінулы год на рынку адбыліся немалыя змены. Не разлічыўшы свае сілы, ліквідавалася «Родная старонка». Большасць крамаў сеткі сталі «Дабраномамі», але санкцыі з боку Міністэрства гандлю дапамаглі знікнуць і гэтаму брэнду. Прыпынялі працу і крамы «Март Іна». Для сетак, якія жывуць перадусім з вялікіх абаротаў, гэта можа быць смяротна.

Затое працягвае разрастацца «Еўраопт». За год сетка дадала каля 100 крамаў, сярод якіх і былыя «Родныя старонкі». Уласнікі кампаніі, бізнэсмены-эмігранты Сяргей Літвін і Уладзімір Васілька, стварылі надзвычай эфектыўную бізнэс-мадэль. У многіх рэгіёнах «Еўраопт» фактычна стаў манапалістам. Служба бясплатнай інтэрнэт-дастаўкі за год з'явілася ва ўсіх абласных цэнтрах, а цяпер разгортваецца ў райцэнтрах. І нават аўталаўкі, на стратнасць якіх наракала кіраўніцтва «Белкаапсаюза», аказалася паспяховым бізнэс-праектам.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Роўныя і розныя цэны

Выбар прадуктаў у нашым спажывецкім кошыку можа падацца дзіўным. Тут ні хлеба, ні малака са смятанай. Тлумачэнне простае: для параўнання цікавыя толькі тыя прадукты, цэны на якія адрозніваюцца ад сеткі да сеткі. Многія для эканоміі бяруць малако з мінімальнай тлустасцю — 1,5%. А ў кожнай наведанай краме яно прадаецца роўна за 6600 рублёў.

Альбо, напрыклад, глазіраваныя сыркі. Жыхары сталіцы найбольш упадабалі ванільныя сыркі ў зялёнай упакоўцы ад Мінскага малочнага завода №1 — штодня іх выпускаецца каля 300 тысяч! Гэты прадукт ёсць, бадай, у кожнай краме, але цана вагаецца на ўзроўні 4100—4400. Розніца непрынцыповая.

Затое гародніну і садавіну крамы найчасцей закупляюць у розных пастаўшчыкоў. Агуркі з памідорамі можна знайсці на любы густ — і беларускія, і турэцкія, і галандскія. Здараецца, цана адрозніваецца ў паўтара раза.

Цікава, на колькі цэннікі змяніліся за год. Бананы ў сярэднім каштуюць 20 тысяч рублёў. Для параўнання, летась цана складала 12—13 тысяч рублёў.

**Асноўныя гандлёвыя сеткі Беларусі**

«Родны кут» (Белкаапсаюз) — тысячы крамаў, пераважна ў вёсках.

«Дарорс» (Белчыгунка) — 74 дробныя крамы Белчыгункі ў Мінску (агулам — больш за 120).

«Еўраопт» — 57 крамаў у Мінску (агулам — 394).

«Рублёўскі» — 51 крама ў Мінску (агулам — 67).

«Суседзі» — 30 крамаў у Мінску (агулам — 51) + 11 крамаў «Сцяжынка».

«Віталюр» — 34 крамы ў Мінску (агулам — 39).

«Белмаркет» — 29 крамаў у Мінску (агулам — 67).

«Гіпа» — 9 крамаў у Мінску (агулам — 12).

«Алмі» — 9 крамаў у Мінску (агулам — 41) + 8 крамаў «Закрама».

«Март Ін» — 6 крамаў у Мінску (агулам — 31).

«Прастор» — 5 гіпермаркетаў у Мінску.

«Карона» — 4 гіпермаркеты ў Мінску (агулам — 11).

танней ⟷ даражэй

| | | Еўраопт | | Прастор | | Гіпа | | Рублёўскі | | Віталюр | | Суседзі | | Карона | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сок «Добры», яблычны | 1 л | 13400 | 10 | — | 5 | 13400 | 10 | 13400 | 10 | 13900 | 8 | 15100 | 1 | 14300 | 6 |
| Нектар «Сочны» мультыфрукт | 0,95 л | 13500 | 10 | 14200 | 8 | 14900 | 5 | — | 5 | 13900 | 9 | 13900 | 9 | 15700 | 1 |
| Аліварыя «Дзясятка» | 0,5 л | 9900 | 10 | 10900 | 7 | 11500 | 5 | 11100 | 6 | 11900 | 4 | 12500 | 1 | 12100 | 3 |
| Гарэлка | 0,5 л | 53000 | 10 | 58200 | 5 | 58900 | 4 | 59900 | 3 | 60900 | 1 | 56900 | 6 | 59000 | 4 |
| Шакалад «Альпен Гольд», фундук | 90 г | 14900 | 10 | — | 5 | 16300 | 7 | 17500* | 10 | 18500 | 1 | 18500 | 1 | 15100 | 10 |
| Каўбаса «Доктарская» (Гродзенскі мясакамбінат) | 1 кг | — | 5 | — | 5 | 56800 | 9 | 58800 | 4 | — | 5 | 59900 | 1 | 56300 | 10 |
| Мандарыны | 1 кг | 19900 | 10 | 23900 | 7 | 23900 | 7 | 31200 | 1 | 21900 | 9 | 29900 | 2 | 28900 | 3 |
| Хурма | 1 кг | 27900 | 7 | 26900 | 8 | 24900 | 10 | 26500 | 9 | 28900 | 6 | 32900 | 1 | 29900 | 5 |
| Бананы | 1 кг | 19900 | 9 | 21900 | 4 | 19900 | 9 | 19500 | 10 | — | 5 | 20900 | 7 | 22800 | 1 |
| Памідоры | 1 кг | 35900 | 10 | 50400 | 5 | 41600 | 8 | 50200 | 5 | 44100 | 7 | 43500 | 7 | 57900 | 1 |
| Агуркі | 1 кг | 32900 | 10 | 36000 | 9 | 55000 | 1 | 44200 | 6 | 52800 | 2 | 44400 | 6 | 45000 | 5 |
| Яблыкі | 1 кг | 10900 | 10 | 12700 | 7 | 13800 | 4 | 15200 | 1 | 14100 | 4 | 13400 | 5 | 14100 | 4 |
| Яйкі, С1 | 10 шт | 17400 | 9 | 17200 | 10 | 17300 | 9 | 17600 | 9 | 18400 | 8 | 22300 | 10 | 20000 | 6 |
| Сёмга салёная «Санта-Брэмар» | 300 г | 99900 | 7 | 93600 | 10 | 100600 | 6 | — | 5 | — | 5 | 103500 | 4 | 108100 | 1 |
| Фарш свіны | 1 кг | 88600 | 2 | 84900 | 4 | 89900 | 1 | 86600 | 3 | 89900 | 1 | — | 5 | 67900 | 10 |
| Гарбата «Ліптан» | 20 пакецікаў | 26900 | 10 | 28500 | 6 | 27000 | 9 | 30400 | 1 | 27900 | 8 | 28900 | 5 | 28800 | 6 |
| Кава «Нэскафэ Класік» | 250 г | 94500 | 9 | 94700 | 9 | 94600 | 9 | 93900 | 10 | 96900 | 7 | 96900 | 7 | 100800 | 1 |
| «Снікерс» вялікі | 95 г | 10900 | 10 | 11700 | 6 | 12200 | 3 | 10900 | 10 | 12500 | 1 | 10900 | 10 | 11900 | 5 |
| | | | **158** | | **120** | | **116** | | **108** | | **91** | | **88** | | **82** |

* дзейнічае часовая зніжка да 12500 рублёў.

## Як вылічвалі лідараў?

Якую методыку падлікаў мы абралі? Напрыклад, кілаграм памідораў у «Еўраопце» прадаецца за 35900 рублёў. Гэта найлепшая цана сярод канкурэнтаў, значыцца, крама атрымлівае максімальныя 10 балаў. Найдаражэй памідоры каштуюць у «Кароне» — можна знайсці толькі па 57900 рублёў за кілаграм. Гэтай краме налічваем 1 бал. Астатнія сеткі атрымліваюць прамежкавыя балы прапарцыйна розніцы ў цане. Здараецца, што некаторыя крамы прынцыпова не прадаюць той ці іншы тавар. «Віталюр» не працуе з рыбай у вакуумнай упакоўцы ад «Санта-Брэмара», бо мае ўласную вытворчасць. У такім выпадку крамы атрымлівалі сярэднія пяць балаў.

Тройка найлепшых у нашым рэйтынгу ў параўнанні з мінулым годам не змянілася, толькі «Гіпа» і «Прастор» памяняліся месцамі. Самымі празмерна таннымі крамамі тым часам застаюцца «Еўраопты».

А вось «Карона» пацвердзіла імідж самай статуснай сеткі.

**Ягор Марціновіч**

# Ад даляра да тэнге

### Якія валюты за год найбольш падаражалі і патаннелі?

Год таму Нацбанк увёў 30%-ую камісію на куплю валюты, у чарговы раз дэвальваваўшы рубель. Курс даляра фактычна павялічыўся з 10900 да 14000 рублёў. Прайшоў год, і амерыканская валюта вырасла яшчэ мацней, ужо да 18400 рублёў.

Якія валюты найбольш падаражэлі за год у Беларусі?
1) Даляр — 29,3%
2) Ганконгскі даляр — 28,7%
3) Японская ена — 28%
4) Швейцарскі франк — 27,9%
5) Ізраільскі шэкель — 27,9%

Колькасць валют, у адносінах да якіх рубель узмацніўся, невялікая. У спісе пераважаюць постсавецкія краіны.
1) Азербайджанскі манат (35%)
2) Казахстанскі тэнге (29%)
3) Бразільскі рэал (14,1%)
4) Украінская грыўня (12%)
5) Калумбійскі песа (8%)

**ЯМ**

## Квадратны метр у Мінску — $1250

На сталічным рынку жылля колькасць выстаўленых на продаж кватэр штомесяц расце, а колькасць угодаў падае. Купцы чакаюць далейшага абвалу цэн, і сітуацыя адпавядае іх чаканням.

Сярэдняя цана квадратнага метра ў лістападзе скінуўшы да $1251, апусціўшыся за месяц амаль $60. Усяго ж за год лічба зменшылася на $415.

Фактычна кожны ўласнік мінскай двухпакаёўкі згубіў $21 тысячу.

**ЯМ**

Сярэдняя цана прапановы квадратнага метра ў сталіцах
Масква — $2724
Варшава — $2075
Кіеў — $1596
Вільня — $1400
Мінск — $1354
Рыга — $1116

**Паводле Realt.by**

## Сцісла

**Даляр — 18 700, бо нафта — $50?**

Парламент прыняў бюджэт краіны. План прадугледжвае, што сярэдні курс даляра за 2016 год чакаецца на ўзроўні 18700 рублёў, а нафта — $50 за бараль. Інфляцыя пры гэтым запланаваная на ўзроўні 9%. У бюджэце краіны пакуль дзірка на $1,5 мільярда. Гэтыя грошы ўлады збіраліся пазычаць альбо ў МВФ, альбо ў Еўразійскага фонду.

**Базавая велічыня — 210 тысяч**

З 1 студзеня 2016 года лічба павялічыцца са 180 да 210 тысяч рублёў. Услед падрастуць сацыяльныя выплаты, стыпендыі, а таксама штрафы і іншыя зборы.

**Манат у свабодным плаванні**

Азербайджанская валюта за дзень патаннела на 47%. Прычынай стала рашэнне Цэнтрабанка не стрымліваць курс ва ўмовах таннай нафты. Раней манат быў фактычна прывязаны да еўра, пасля — да даляра. Цяпер жа за 1 еўра даюць 1,7 маната.

**ЯМ**

# Гродзенцу выпісалі 7 млн штрафу за спробу прадаць праз інтэрнэт 4 мяхі тынкоўкі

Жыхар Гродна Аляксандр расказаў пра сітуацыю, якая яшчэ некалькі гадоў таму здалася б неймавернай. Мужчына «нарваўся» на кантрольны закуп пры спробе прадаць на Гродзенскім форуме рэшткі тынкоўкі, якая засталася пасля завяршэння рамонту дома.

У красавіку 2015 мы пісалі пра штраф за спробу продажу адной бутэлькі кандыцыянера для бялізны. Няўважлівы муж купіў яе ў Польшчы, але кандыцыянер не спадабаўся жонцы. Тады многія палічылі дадзеную гісторыю за першакрасавіцкі жарт, патрабуючы доказаў. А крыху пазней Лідзія Сямашка, начальнік інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Гродзенскай вобласці, пацвердзіла, што падатковы інспектар мае права прад'явіць пяціразовы падатак за спробу незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасці, патлумачыўшы, што пад гэтым маецца на ўвазе.

Пачынаючы з 2015 года, калі чалавек перыядычна размяшчае рэкламныя аб'явы ў інтэрнэце або газеце аб продажы новых рэчаў, падатковыя органы маюць права ставіць пытанне аб наяўнасці ў яго дзеяннях прыкмет прадпрымальніцкай дзейнасці. Калі падатковыя інспектары выявяць такія факты, грамадзянін заплаціць адзіны падатак у 5-разовым памеры. Аднак кожны канкрэтны выпадак будзе разглядацца асобна. Цяпер у інтэрнэце ці праз газету можна прадаваць толькі б/у рэчы — свае ці членаў сям'і. Калі нешта не падышло або не спадабалася, можна абмяняць або вярнуць назад прадаўцу ў адпаведнасці з законам «Аб абароне правоў спажыўцоў».

А што ж выйшла ў гісторыі з Аляксандрам?

У 2009 годзе Аляксандр з жонкай атрымалі па чарзе надзел, на якім вырашылі будаваць хату. З



вясны 2010 года пад Гроднам пачалася будоўля. Сродкаў не хапала, усё, акрамя «каробкі», рабілі сваімі сіламі. Да вясны 2015 многае па аздабленні скончылі, але дакладна не разлічылі неабходны аб'ём будматэрыялаў, таму ўтварыліся сякія-такія рэшткі.

У жніўні 2015 Аляксандр размясціў на Гродзенскім форуме аб'яву аб продажы чатырох мяшкоў гіпсавай тынкоўкі, а ўжо 17 жніўня патэлефанаваў пакупнік. Як пазней высветлілася, ён «трапіў» на кантрольны закуп падатковай.

Па тэлефоне пакупнік папрасіў саступіць трохі, на што атрымаў зніжку 5000 рублёў з мяшка. Агулам па 95 000 рублёў за мяшок. Да мужчыны прыехалі проста дадому. Перад тым, як купляць тынкоўку, падатковы інспектар удакладніў, ці не прадаецца цэмент, які Аляксандр купіў для залівання падмурка пад плот. Тады падаткавік і супрацоўнік АБЭЗ пагрузілі тынкоўку ў сваю машыну, уручылі Аляксандру 400 тыс. і адразу ж прад'явілі пасведчанне на імя начальніка аддзела ІМПЗ па Гродзенскай вобласці Семянчэні Ю.І. Пасля гэтага «героя» гісторыі апавясцілі аб правядзенні кантрольнай закупкі.

Усе наступныя скаргі Аляксандра пакінулі без задавальнення. Чалавеку прыйдзецца сплаціць гіганцкі штраф.

**Чытайце: s13.ru**

## Лазуткін адмаўляе, што ў Курапатах пахаваныя ахвяры савецкіх расстрэлаў

Малады **пісьменнік-камуніст** выцягвае старую версію пра ахвяраў фашызму.

На адным з сайтаў, скіраваных на беларускую аўдыторыю, што фінансуюцца расійскімі спецслужбамі, з’явіўся артыкул беларускага пісьменніка Андрэя Лазуткіна пра Курапаты.

Лазуткін адмаўляе той факт, што ў Курапатах пахаваныя ахвяры савецкіх расстрэлаў, і выцягвае старую версію, што там спачываюць ахвяры нацыстаў.

Ён грунтуецца на шэрагу сфальсіфікаваных дакументаў, што з’явіліся ў канцы 1980-х, якія мелі на мэце абяліць савецкі рэжым.

З новага — Лазуткін у духу новай расійскай канспіралогіі верыць у змову беларускіх эліт з мэтай распальвання ў краіне русафобіі. Ён абвінавачвае ў тым не толькі беларускіх пракурораў, але і даводзіць, што газаправод, які клалі каля мікрараёна Зялёны Луг у 80-я, спецыяльна павярнулі, каб абследаваць мясцовасць і знайсці пахаванні. Дзеля чаго? Каб дыскрэдытаваць СССР і раскруціць БНФ.

Дарэчы, Лазуткін не ведае, што саму назву «Курапаты» прыдумаў Зянон Пазняк. Такім хітрым спосабам ён выкрыў будучую спробу фальшавання гісторыі. Да таго лес на горах каля вёскі Цна-Ёдкава не называўся ніяк.

Пазняк прадбачыў спробы фальсіфікацыі гістарычных дакументаў адносна месца расстрэлаў. І сапраўды, неўзабаве



пасля першай публікацыі пра месцы пахаванняў у лесе каля Зялёнага Луга з’явіліся фальшывыя «дакументы НКВД» з рапартамі пра «расстрэлы нацыстамі ва ўрочышчы Курапаты». Тады Пазняк і падняў доказы, што назвы Курапаты да ягонай публікацыі не існавала.

Адзіны праўдзівы факт, за які чапляецца Лазуткін, — гэта лічба ў 250—300 тысяч магчымых пахаваных у Курапатах, якая была прыведзеная ў першай публікацыі пра некропаль. Яна сапраўды была завышаная. Лічба ў прыкладна 30 тысяч расстраляных, названая генпракурорам БССР Тарнаўскім, больш верагодная.

Свой артыкул Лазуткін прысвяціў 137-годдзю Сталіна.

**Мікола Бугай**

**Андрэй Лазуткін**

аўтар кніг «Палігон» і «Паліталогія», актывіст пралукашэнкаўскай Кампартыі Беларусі.

Паралелі

## Чаму зло перамагае

Новы эпізод **«Зорных войнаў»** б’е ўсе касавыя рэкорды.



Пасля 10-гадовага перапынку «Зорныя войны» вярнуліся да гледача. Гэта самая папулярная эпапея ў гісторыі кінематографа. Калі ў 1980 годзе выйшла другая часта «Імперыя наносіць удар у адказ», то больш за 2 мільёны амерыканцаў пад рознымі падставамі не пайшлі на працу, а пайшлі ў кінатэатры. Нават тыя людзі, якія ніколі не глядзелі «Зорныя войны», нешта чулі пра Люка Скайвокера, канцлера Ёду і Чубаку.

Кажуць, што сакрэт поспеху «Зорных войнаў» — у найлепшых спецэфектах. Можа, і так, але гэты фільм пра нешта большае, чым проста касмічныя бойкі і пагоні. Гэта ідэальны свет, дзе ёсць чорнае і белае, сілы дабра і сілы зла.

У дабра ёсць джэдай Люк Скайвокер, плэйбой Хан Сола, адданы Чубака, прынцэса Лея. Зло ж, часцей за ўсё, нават не мае твару, яно носіць маскі. Аднаго штурмавіка немагчыма адрозніць ад іншага. Зло маналітнае, яно арганізаванае. Кажуць жа, што парадак б’е клас.

Фармальна бок дабра перамагае ў кожнай з частак «Зорных войнаў». Але татальную вайну выйграе бок Цёмных сілаў. На працягу сямі частак можна прасачыць, як скукожваецца дабро з магутнай Галактычнай Рэспублікі да групкі паўстанцаў-дысідэнтаў. Прастора свабоды змяншаецца з кожным годам. Нешта гэта вельмі нагадвае.

І ўсё ж «Зорныя войны» пакідаюць надзею, што нават малымі сіламі можна рабіць цуды. Што недзе ў галактыцы ёсць герой, які можа змяніць усё. Яго трэба толькі адшукаць. Ці ўдасца? Глядзіце ў кінатэатрах вашага горада.

**Зміцер Панкавец**




### Аляксандр Лукашэнка: Наступны год будзе вельмі складаным, смею заўважыць, што такога года ў гісторыі нашай краіны не было

## Паляк выкінуў 100 тысяч злотых, прызначаных на лячэнне дачкі, але здарыўся цуд

Варшаўскі смеццеперапрацоўчы завод дапамог жыхару прыгарада польскай сталіцы адшукаць 96 тысяч злотых (каля 22 тыс. еўра), якія той памылкова выкінуў у смецце. Сродкі прызначаліся на лячэнне яго дачкі.

«Мы разглядаем гэта як калядны цуд», — адзначыў прадстаўнік кампаніі па вывазе і ўтылізацыі смецця Караль Войцік.

Паводле яго слоў, яшчэ б крыху, і грошы перамалоліся б і былі б перапрацаваныя на паліва.

«Яшчэ б 10 секунд, калі б стужка не спынілася ў пэўны момант, пакет з грашыма разам з астатнім смеццем адправіўся б у спецыяльны адсек», — сказаў Караль Войцік.

На шчасце, аднаму з працаўнікоў завода ўдалося адшукаць пакет.

Уладальнік грошай прапаноўваў яму ўзнагароджанне, але той адмовіўся.

**Зорныя войны: абуджэнне сілы**
**Рэжысёр: Джэй Джэй Абрамс**
**135 хв, ЗША**

Праз трыццаць гадоў пасля гібелі Дарта Вейдэра і Імператара галактыка па-ранейшаму ў небяспецы. Першы Ордэн на чале з таямнічым Сноўкам і яго правай рукой Кайлі Рэнам ідзе па слядах Імперыі, спрабуючы захапіць усю ўладу. У гэты нялёгкі час на планеце Джаку лёс зводзіць дзяўчыну Рэй і былога штурмавіка Першага Ордэна Фіна з героямі часоў вайны з Імперыяй — Ханам Сола, Чубакам і лідаркай Паўстанцаў генералам Леяй. Разам яны павінны даць бой Першаму Ордэну, аднак становіцца відавочна, што толькі джэдаі могуць спыніць Сноўка і Кайлі Рэна…

Роля Рэй дасталася маладой брытанскай акцёрцы Дэйзі Рыдлі. Яе напарнікам, паўстанцам По Дэмеранам, стаў гватэмалец Оскар Айзэк, вядомы па музычнай стужцы «Унутры Льюна Дэвіса» (2013) і намінаваны за галоўную ролю на «Залаты глобус». Стваральнікі стужкі імкнуліся па магчымасці выкарыстоўваць рэальныя месцы для здымак (у ваколіцах Абу-Дабі, Лондана і на выспе Скелінг-Майкл у Ірландыі). Спецыяльна для здымак быў пабудаваны касмічны карабель «Тысячагадовы сокал».




**Першым новую серыю «Зорных войнаў» ўбачыў Дэніэл Флітвуд з Тэхаса.** Флітвуду было ўсяго 32 гады, але ён паміраў ад раку, і шанцаў дажыць да выхаду фільма ў пракат у яго не было. Анлайн-кампанія ў падтрымку хлопца прыцягнула ўвагу Disney. Яе кіраўніцтва дало дазвол паказаць яшчэ не змантаваную версію «Абуджэння сілы» ў яго дома. Перад праглядам Флітвуду патэлефанаваў рэжысёр Абрамс. Дэніэл памёр 10 лістапада 2015 г.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **А** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **С** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ч** | | ***7*** | 14 | 21 | 28 |
| **П** | ***1*** | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **С** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Н** | **3** | **10** | **17** | **24** | **31** |

## Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **А** | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| **С** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Ч** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **П** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **С** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Н** | **7** | **14** | **21** | **28** | |

## Сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **А** | 1 | ***8*** | 15 | 22 | 29 |
| **С** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ч** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **П** | 4 | 11 | 18 | **25** | |
| **С** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Н** | **6** | **13** | **20** | **27** | |

## Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **А** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **С** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ч** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **П** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **С** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Н** | **3** | **10** | **17** | **24** | |

## Май

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 2 | ***9*** | 16 | 23 | 30 |
| **А** | | 3 | ***10*** | 17 | 24 | 31 |
| **С** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ч** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **П** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **С** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Н** | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **А** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **С** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ч** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **П** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **С** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Н** | **5** | **12** | **19** | **26** | |

## Ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **А** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **С** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ч** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **П** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **С** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Н** | ***3*** | **10** | **17** | **24** | **31** |

## Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **А** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **С** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ч** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **П** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **С** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Н** | **7** | **14** | **21** | **28** | |

## Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **А** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **С** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ч** | 1 | **8** | 15 | 22 | 29 |
| **П** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **С** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Н** | **4** | **11** | **18** | **25** | |

## Кастрычнік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **А** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **С** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ч** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **П** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **С** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| **Н** | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** | |

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | **7** | 14 | 21 | 28 |
| **А** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **С** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ч** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **П** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **С** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Н** | **6** | **13** | **20** | **27** | |

## Снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **П** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **А** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **С** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ч** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **П** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **С** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Н** | **4** | **11** | **18** | ***25*** | |

**Студзень**
**1** — Новы год.
**6** — Тры каралі ў каталікоў; Вадохрышча ва ўніятаў.
**7** — Раство Хрыстова ў праваслаўных.
**12** — 75 гадоў народнаму артысту Беларусі, заснавальніку «Песняроў» Уладзіміру Мулявіну.
**14** — 100 гадоў каталіцкаму святару Уладзіславу Чарняўскаму з Вішнева, перакладчыку Святога Пісьма, які адзіны ў СССР у 1950—70-я служыў па-беларуску.
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных.
**21** — 75 гадоў іспанскаму опернаму спеваку Пласіда Дамінга.

**Люты**
**2** — Грамніцы ў каталікоў і ўніятаў.
**5** — 100 гадоў педагогу і лексікографу Валянціне Пашкевіч, укладальніцы падручнікаў і слоўніка для беларусаў замежжа.
**10** — Папялец у каталікоў.
**12** — 75 гадоў народнаму артысту Беларусі Міхаілу Дрынеўскаму.
**14** — Дзень святога Валянціна.
**15** — Грамніцы ў праваслаўных.
**21**— Міжнародны дзень роднай мовы.
**28** — 50 гадоў паэту Алесю Бадаку.

**Сакавік**
**7—13** — Масленіца ў праваслаўных.
**8** — Міжнародны жаночы дзень.
**8** — 75 гадоў расійскаму акцёру Андрэю Міронаву.
**15** — Дзень Канстытуцыі.
**16** — 75 гадоў італьянскаму кінарэжысёру Бернарда Берталучы.
**20** — Вербніца ў каталікоў, уніятаў.
**23—24** — Пурым у юдэяў.
**25** — Дзень Волі.
**27** — Вялікдзень у каталікоў, уніятаў.
**28** — 75 гадоў мастаку Феліксу Гумену, заснавальніку школы «віцебскай акварэлі».

**Красавік**
**1** — Дзень дурня.
**12** — Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі.
**17** — 125 гадоў Язэпу Варонку, старшыні і міністру замежных спраў Народнага камісарыята БНР.
**22—30** — Пэсах у юдэяў.
**24** — Вербніца ў праваслаўных.
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі.

**Май**
**1** — Вялікдзень у праваслаўных; Дзень працы.
**5** — Ушэсце ў каталікоў і ўніятаў.
**9** — Дзень Перамогі; Дзень Еўропы.
**9** — 150 год тэатральнаму мастаку, графіку Льву Баксту.
**10** — Радуніца — вясновы дзень памінання продкаў.
**11**— Дзень святога Кірылы Тураўскага.
**15** — Тройца ва ўніятаў.
**21** — 50 гадоў лёгкаатлетцы, алімпійскай чэмпіёнцы Таццяне Ледаўской.
**26** — Свята Божага Цела ў каталікоў.

**Чэрвень**
**5** — Дзень святой Еўфрасінні Полацкай.
**6** — пачатак месяца Рамадан у мусульманаў.
**9** — Ушэсце ў праваслаўных.
**19** — Тройца ў праваслаўных.
**19** — 75 гадоў гісторыку Івану Ласкову, аўтару «фінскай» канцэпцыі паходжання беларусаў.
**23** — Купалле.
**28** — Сабор беларускіх святых.
**29** — Пятра і Паўла ў каталікоў, уніятаў.
**30** — 50 гадоў амерыканскаму баксёру Майку Тайсану.

**Ліпень**
**2** — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі.
**6** — Сусветны дзень пацалункаў.
**7** — Івана ў праваслаўных; 50 гадоў біятланісту, алімпійскаму чэмпіёну Уладзіміру Драчову.
**12** — Пятра і Паўла ў праваслаўных.
**22** — 100 гадоў празаіку, крытыку, перакладчыку Уладзіміру Юрэвічу.
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1991-м.

**Жнівень**
**6** — Спас ва ўніятаў.
**12** — 50 гадоў барду і паэтцы Леры Сом.
**15** — Успенне Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў каталікоў і ўніятаў.
**18** — 75 гадоў пісьменніку Сямёну Букчыну.
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных.
**27** — 75 гадоў украінскаму акцёру Багдану Ступку.
**28** — Успенне ў праваслаўных.
**31** — 100 гадоў народнай артыстцы Беларусі Зінаідзе Браварскай.

**Верасень**
**1** — Сусветны дзень ведаў.
**4** — Дзень беларускага пісьменства.
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы.
**12** — Курбан-байрам у мусульманаў.
**14** — Узвіжанне ў каталікоў і ўніятаў.
**27** — Узвіжанне ў праваслаўных.
**29** — 125 гадоў сябру Рады БНР, географу Аркадзю Смолічу.

**Кастрычнік**
**1** — Пакроў ва ўніятаў.
**2** — Дзень настаўніка.
**2—4** — Рош Ха-Шана (Новы год) у юдэяў.
**3** — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульманаў.
**14** — Пакроў у праваслаўных.
**31** — Ірландска-амерыканскае свята Хэлоўін.

**Лістапад**
**1** — Дзень усіх святых у каталікоў.
**2** — Дзяды — восеньскі дзень памінання продкаў.
**6** — 125 гадоў мовазнаўцу Іосіфу Воўк-Левановічу.
**16** — Дзень Маці Божай Астрабрамскай.
**23** — 50 гадоў паэту Міхасю Скоблу.
**26** — 125 гадоў мовазнаўцу Янку Станкевічу.
**27** — першая нядзеля Адвэнту ў каталікоў.
**28** — пачатак Піліпаўкі.

**Снежань**
**3** — Дзень бульбы.
**7** — 75 гадоў фалькларысту Васілю Ліцьвінку.
**9** — 125 гадоў класіку літаратуры Максіму Багдановічу.
**10** — Дзень правоў чалавека.
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў.
**31** — 75 гадоў шатландскаму футбалісту і трэнеру Алексу Фергюсану.

**Юбілеі года**
**25** гадоў таму Вярхоўны Савет надаў канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Наша краіна афіцыйна пачала называцца Рэспубліка Беларусь.
**50** гадоў таму створаны Музей гісторыі беларускага кіно; адчынены Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт (спачатку як Інжынерна-будаўнічы інстытут).
**75** гадоў таму нацысцкая Германія напала на СССР, Беларусь была акупавана нямецкімі войскамі; створаны Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (г. Дзяржынск).
**100** гадоў таму пачалі выходзіць беларускамоўныя часопіс «Гоман» (у Вільні), газеты «Светач» і «Дзянніца» — у Петраградзе.
**175** гадоў беларускай польскамоўнай пісьменніцы Элізе Ажэшка.
**200** гадоў пісьменніку, удзельніку паўстання 1863—64 г. Арцёму Вярыгу-Дарэўскаму.
**225** гадоў таму была прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.
**425** гадоў таму нарадзіўся каталіцкі дзеяч, місіянер Андрэй Баболя.
**450** гадоў таму быў прыняты другі Статут Вялікага Княства Літоўскага.
**475** гадоў дзяржаўнаму і царкоўнаму дзеячу ВКЛ Іпацію Пацею.
**675** гадоў таму ўпершыню ўзгадваюцца Ашмяны ў «Хроніцы літоўскай і жамойцкай».
**700** гадоў таму вялікім князем Літоўскім стаў Гедымін, які павялічыў тэрыторыю ВКЛ удвая.
**900** гадоў таму Слуцк упершыню ўзгадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў», 575 гадоў таму Слуцк атрымаў Магдэбургскае права.

**Склаў Сяргей Макарэвіч**

# Міністр гандлю пад вартай




Міністр гандлю — ужо былы — Валянцін Чаканаў змешчаны ў следчы ізалятар. Пра гэта паведаміў Следчы камітэт.

Чаканаў падазраецца ў перавышэнні ўлады і паўнамоцтваў.

Ён стаў адзіным міністрам са старога складу ўрада, якога Лукашэнка не перапрызначыў.

Таксама Следчы камітэт расследуе крымінальную справу на былога намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіля Півавара. Матэрыял на яго накапаў КДБ. Півавар таксама сядзіць. У пачатку снежня яго знялі з пасады намесніка міністра — дырэктара дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду. Фармулёўка: «у сувязі са дзяйсненнем учынку, несумяшчальнага са знаходжаннем на дзяржаўнай службе».

**СГ**



## Міліцыя паблытала жанчыну ў доўгай сукенцы з цыганкай ў вышуку і са скандалам затрымала

15 снежня ў Жанны Бразоўскай быў апошні працоўны дзень. 32-гадовая мінчанка працавала кур'ерам у краме па продажы цацак, але вырашыла звольніцца, каб заняцца творчасцю. Як кажа сама жанчына, «яна шырока вядомая ў вузкіх колах як спявачка Жанна Знакава». Засталося толькі ў апошні раз развезці тавары. Жанна адвяла дачку ў садок і паехала па кліентах.

Апоўдні яна прыехала ў дом №27 на Чкалава. Пазваніла ў дамафон, і тут да яе падышоў мужчына.

«Ён адразу сказаў: «Міліцыя. Дзе вы жывяце?» Паказаў пасведчанне, але хутка, я нічога не зразумела. Апрануты ён быў у звычайную вопратку, і я яму не паверыла, — распавяла Жанна «Нашай Ніве». — Таму як мага хутчэй пабегла ў дом, да кліента».

Кліента яна нават папрасіла, каб ён правёў яе — кажа, спужалася. Той пагадзіўся. А калі Жанна з кліентам выйшлі з пад'езда, той самы мужчына яшчэ раз падышоў да іх. Жанна прапанавала паказаць яму пашпарт. Па яе словах, мужчына пагадзіўся і перапісаў яе звесткі.

Але затым пад'ехала звычайная, не міліцэйская, машына. З яе выйшлі двое і прапанавалі Жанне паехаць з імі. Яна спужалася яшчэ больш.

«Я падумала, што гэта нейкія бандыты, пачала крычаць. Патрабавала, каб мяне везлі на міліцэйскай машыне. Я званіла ў «102», але яны не давалі мне нармальна гаварыць. Чаму я павінна была паверыць, што гэта сапраўдныя міліцыянты? — тлумачыць Бразоўская. — Яны пачалі запіхваць мяне ў машыну. Я супраціўлялася. Потым мне казалі, што пашкодзіла ім аўто — што ж, можа быць. Але я ж не разумела, што адбываецца, думала, мяне выкрадаюць».

Жанну адвезлі ў Кастрычніцкае РУУС. Па яе словах, па дарозе ў яе забралі тэлефон, яе пастаянна абражалі. А ў аддзяленні сказалі, што яна падобная да жанчыны, якая абрабавала бабулю на Чкалава. І апранутая была так жа: доўгая клятчастая спадніца, хустка, чорная куртка, у руках — вялікія торбы. Распыталі, што Бразоўская рабіла 6 снежня, склалі пратакол.

«Агулам я правяла ў аддзяленні 7 гадзін. Я была ў разгубленасці, у шоку. Тым больш мае правы ніхто не агучваў. Адзін з міліцыянтаў, Вязовіч, увогуле сказаў: «Я не рэкамендую вам нікому званіць», — кажа Жанна. — Яны паводзілі сябе так, нібыта я не чалавек і не жанчына. Размаўлялі груба і па-хамску, пагражалі, што я буду адказваць за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі і пашкоджаны салон іх машыны».

У РУУС на яе склалі адміністрацыйны пратакол за непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў. Санкцыя па гэтым артыкуле прадугледжвае штраф ад 2 да 50 базавых велічынь (ад 360 тысяч да 9 мільёнаў рублёў) або адміністрацыйны арышт.

Жанна накіравала звароты ў пракуратуру Кастрычніцкага раёна, раённы аддзел Следчага камітэта, упраўленне ўласнай бяспекі МУС і Адміністрацыю прэзідэнта. Яна просіць аб адмене пратакола, які лічыць незаконным, і скардзіцца на дзеянні супрацоўнікаў РУУС.

«Нярэдка я бяру дачку з сабою на працу. А ў той дзень у мяне проста былі вялікія торбы, і я адвяла яе ў садок. Уявіце, каб пры ўсім гэтым прысутнічала дзіця! — абуралася Бразоўская. — Я хачу, каб пра гэтую гісторыю ведалі, каб больш ніхто не трапіў у такую сітуацыю. Міліцыянты казалі, што, калі мне штосьці не падабаецца, я магу з'ехаць у іншую краіну. Уяўляеце?!»

Прэс-афіцэр Кастрычніцкага РУУС Леанід Ушэнін пацвердзіў, што 15 снежня Жанну Бразоўскую затрымалі супрацоўнікі УУС. Гэта былі оперупаўнаважаныя крымінальнага вышуку. Ушэнін кажа, што міліцыянты дзейнічалі па законе і абвяргае словы жанчыны некарэктнасць дзеянняў з іх боку.

**Улад Швядовіч**

## Ударылі нажом за заўвагу пра няправільна прыпаркаванае аўто

Інцыдэнт адбыўся 19 снежня на вуліцы Румянцава ў цэнтры Мінска.

Малады чалавек прыпаркаваўся пад забараняльным знакам і сядзеў у машыне. Да яго падышоў 30-гадовы мужчына, які быў нападпітку, папрасіў закурыць. Закурыў, а затым пачаў абражаць кіроўцу і абурацца тым, як прыпаркавана аўто. Урэшце стаў біць па машыне рукамі і спрабаваў ударыць праз адкрытае акно кіроўцу. У адказ малады чалавек, які знаходзіўся ў аўтамабілі, дастаў нож і ўдарыў ім крыўдзіцеля.

«Быў такі факт. Той, хто нанёс нажавое раненне, ужо затрыманы», — паведаміў прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі.

За апошні месяц гэта ўжо другі выпадак агрэсіі з-за заўваг аб няправільнай паркоўцы. У пачатку снежня блогера Дзмітрыя Валотка збілі трое мужчын за спробу сфатаграфаваць прыпаркаваны на тратуары аўтамабіль таксі.

**УШ**

## Наёмны забойца замардаваў дзяўчыну і хлопца за 5 мільёнаў рублёў

20 снежня ў жылым доме на Алібегава знайшлі трупы мужчыны і жанчыны. На целе мужчыны было каля 50 нажавых ран! На целе жанчыны — больш за 30.

Міліцыя імгненна выявіла, што да злачынства датычныя двое маладых людзей. Хутка высветлілася, што іх наняла за 5 мільёнаў рублёў былая блізкая сяброўка маладога чалавека.

Такім чынам яна хацела адпомсціць новай дзяўчыне свайго былога маладога чалавека. Яна не прасіла забіваць саперніцу, а хацела «адправіць» у бальніцу тыдні на два, каб у гэты час паспрабаваць наладзіць адносіны з маладым чалавекам. Выканаўцы перастараліся і забілі абаіх.

**УШ**

## Кіроўца збіў двух дзяцей, выйшаў з машыны і памёр. А дзеці выжылі

67-гадовы кіроўца на «Пежо-207» рухаўся па вуліцы Янкоўскага ў бок Шаранговіча — гэта сталічны раён Сухарава. Павяртаў направа на Гарэцкага і збіў дзяцей, якія пераходзілі дарогу на зялёнае святло, распавялі ў ДАІ Фрунзенскага раёна.

Збіўшы, выскачыў з машыны і... страціў прытомнасць. Яго адвезлі ў бальніцу. Там ён і памёр, не прыходзячы ў прытомнасць.

А дзеці, 12-гадовыя хлопчыкі, засталіся жывыя.

**СГ**

## Сцісла

### Згарэлі дзеці з няшчаснай сям'і

Дзве маленькія дзяўчынкі, 2012 і 2011 гадоў нараджэння, загінулі ў Пружанскім раёне (Брэсцкая вобласць) на час пажары ў мінулую суботу. Падчас здарэння маці са старэйшай дачкой была ў суседкі. Прычына пажару высвятляецца, адна з версій — дзіцячае свавольства з агнём. Сям'я была на добрым рахунку.

### А хто яны і куды ішлі?

У выхадныя ў Мінскім раёне загінулі два пешаходы: мужчына і жанчына. Іх асобы пакуль не высветлены. Абое яны не былі пазначаныя флікерамі.

### Выбеглі пад колы

У Гродне мама з трохгадовым сынам выбегла на дарогу на чырвоны сігнал святлафора. Кіроўца «Сітраэна» не змог хутка затармазіць і збіў жанчыну з дзіцем на руках. Абаіх давялося шпіталізаваць.

### Зяць забіў цешчу, а потым застрэліўся

Трагедыя адбылася ў Пінскім раёне 21 снежня. Труп 75-гадовай жанчыны з агнястрэльным раненнем галавы знайшлі ў яе доме. З такім жа раненнем знойдзена цела яе зяця, 56-гадовага непрацуючага мужчыны. Зяць спачатку застрэліў цешчу, а потым скончыў жыццё самагубствам.

**УШ**

# Як нелегальна зарабіць на беларускім баскетболе

У судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаўся разгляд справы Канстанціна Шараверы, былога дырэктара баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск». Яго абвінавачваюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі і крадзяжы.

Шараверу затрымалі яшчэ ў красавіку 2014 года, праз тры дні пасля выхаду на пенсію. Паўтара года ён правёў у СІЗА. І вось, нарэшце, справа трапіла ў суд.

Па версіі следства, Шаравера краў грошы з 2010 па 2014 год. Рабілася гэта так: спачатку з гульцамі «Цмокаў» заключалася вуснае пагадненне пра заробак. Затым ішло падпісанне пустога дадатка да кантракта, пасля чаго ўжо без ведама гульца ў гэтай паперы прапісвалі большую суму.

Гэтыя завышаныя грошы пералічваліся на банкаўскую картку, якую генеральны дырэктар забіраў у спартсмена адразу ж пасля яе афармлення. Далей Шаравера здымаў грошы, расплачваўся з гульцамі паводле вусных дамоўленасцяў, а розніцу пакідаў сабе. Гэтая розніца дасягала некалькіх тысяч даляраў у месяц з аднаго гульца, лічыць следства.

Шараверу абвінавачваюць і ў прысваенні грашовых сродкаў, што выдзяляліся гульцам і інструктарам для харчавання падчас вучэбна-трэніровачных збораў на пражыванне каманды ў Мінску (прыбыццё, арэнда жылля, камунальныя плацяжы, узнагароджанне агентам).

Становіцца зразумелым неймаверны ўзровень заробкаў пасрэдных гульцоў «Цмокаў». Напрыклад, суданец Атэра Маджок атрымліваў $8000 за месяц, Джонатан Крэфт (які забываўся узяць на матч форму — тыя ж $8000 (праўда, у незарэгістраванай дамове фігуравала сума $4000), у кантракце Найджала Мансона была прапісаная сума $6000 (быў і яшчэ адзін на $2000). Джон Эдвардс меў кантракт з астранамічнымі лічбамі $12 500 (першапачатковая дамоўленасць — $7700), разыгрываючы Джуліус Ходж — $12 500, а з не самым зорным Майклам Хардынам заключылі дагавор на $12000 у месяц. Нарэшце, $6500 Аляксандра Фаміна, такая ж сума Скота Крыстаферсана, $7000 Відаса Гінявічуса і $5000 Стэфана Петкавіча таксама вельмі далёкія ад эфектыўнасці гэтых гульцоў.




Паведамляецца, што такім чынам за гады сваёй працы Шаравера «наварыў» больш за 7 мільярдаў рублёў.

Таксама следства сцвярджае, што сваё 60-годдзе дырэктар «Цмокаў» адсвяткаваў за спонсарскія грошы, якія належалі клубу.

Але ж сам Канстанцін Шаравера не прызнаў сваю віну ні па адным пункце абвінавачвання.

Далейшы разгляд справы адкладзены праз траўму адваката.

**Улад Швядовіч**

## Пакуль сябар спаў, яму нафарбавалі пазногці. У адплату ён спаліў сяброў

У Лельчыцах на выязным пасяджэнні Гомельскага абласнога суда прайшлі дэбаты па рэзананснай крымінальнай справе. 36-гадовы жыхар Лельчыцкага раёна абвінавачваецца ў забойстве дзвюх і больш асоб агульнанебяспечным спосабам і з асаблівай жорсткасцю. Пракурор запатрабаваў для яго 23 гады пазбаўлення волі.

Што стала прычынай канфлікту? Дзевяць рабочых вярталіся з працы ўнутры фургона, пры гэтым выпівалі. Калі адзін з іх заснуў, калегі вырашылі пажартаваць і нафарбавалі яму пазногці чырвоным лакам, знойдзеным на вуліцы. А пасля паснулі самі.

Тым часам ахвяра жарту прачнулася. Мужчына ўбачыў свае пазногці і вырашыў адпомсціць. Ён схапіў каністру з бензінам, выліў яго на падлогу і выскачыў з машыны на хаду.

Кіроўца заўважыў агонь і рэзка затармазіў. Пяцёра рабочых паспелі выбрацца з палаючага фургона. Астатнія трое ад нанесеных цялесных пашкоджанняў памерлі ў бальніцы. Агнём быў знішчаны службовы аўтамабіль.

Прысуд мае быць аб'яўлены 29 снежня. Сам мужчына сваёй віны не прызнаў.

**УШ**

## Шукаюць гвалтаўніка дзяцей

У Мінску шукаюць мужчыну, якога падазраюць у здзяйсненні гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да малалетніх.

12 кастрычніка прыкладна ў 16.45 па вуліцы Л.Чайкінай мужчына, выйшаўшы са свайго аўтамабіля Mercedes Sprinter сіняга колеру, паспрабаваў здзейсніць гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да малалетніх. Пасля чаго знік у невядомым кірунку.

На задняй частцы левага борта машыны маецца адметны знак жоўтага колеру ў выглядзе крылаў і эмблемы, знізу размешчаны тэкст.

Прыкметы мужчыны: на выгляд 30—35 гадоў, рост каля 180 см, хударлявага целаскладу. Быў апрануты: байка цёмнасіняга колеру з надпісамі жоўтага або белага колеру, цёмныя штаны.

Усіх, хто пазнаў машыну ці эмблему на аўто, просяць звяртацца ў Заводскае РУУС сталіцы асабіста альбо па тэлефонах: 8 (029) 655-01-78, 8 (029) 149-99-90, 8 (029) 501-67-37, 8 (025) 602-37-67, 8 (017) 340-93-22, 8 (017) 340-02-02 (дзяжурная частка) альбо 102. Канфідэнцыйнасць гарантаваная.

**УШ**



## Прыхапіў труп з сабой

**П'яны таксіст** насмерць збіў веласіпедыстку.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці скончыла расследаванне крымінальнай справы аб смяротным наездзе на веласіпедыстку, якое здзейсніў у Нясвіжскім раёне нецвярозы таксіст.



Следствам выяўлена, што каля шасці гадзін раніцы 17 жніўня 2015 года 32-гадовы індывідуальны прадпрымальнік за стырном «Кія Рыа» ехаў нападпітку па дарозе «Нясвіж—Клецк» з перавышэннем хуткасці. Насустрач яму па абочыне ехала веласіпедыстка. Кіроўца не даў рады кіраванню і наехаў на ровар. Ад атрыманых траўмаў 49-гадовая жанчына памерла на месцы здарэння.

Таксіст паклаў цела загінулай у салон свайго аўто і ўцёк з месца аварыі. Машыну з трупам ён кінуў на кукурузным полі ў Стаўбцоўскім раёне. А пасля напісаў у міліцыю заяву аб крадзяжы яго аўто.

Пасля некалькіх дзясяткаў экспертыз следчыя вырашылі, што наехаў на веласіпедыстку ўсё ж таксіст. Апроч таго, на камеры фотафіксацыі, усталяванай на трасе «Нясвіж—Клецк», відаць «Кія Рыа» з атрыманымі пры аварыі пашкоджаннямі.

Таксісту прад'яўлена абвінавачванне за кіраванне аўто ў стане ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека, а таксама заведама ілжывы данос аб здзяйсненні злачынства.

**ЯМ**

## Сцісла

### Нарадзіла і забіла

У смеццевым баку ў Рэчыцы знайшлі мёртвае немаўля. Асобу маці пакуль не высветлілі.

### Знайшлі труп

Цела 25-гадовай жанчыны знайшлі ў двары аднаго з дамоў у Бабруйску. Папярэдне выяўлена, што яе раніцай 6 снежня сякерай забіў знаёмы, раней неаднаразова судзімы 24-гадовы жыхар горада. Падазраваны затрыманы.

### За хабар — у калонію

Былы выкладчык мінскага каледжа атрымаў 4 гады калоніі. 27-гадовы мужчына узяў у навучэнцаў грошы за станоўчыя адзнакі пры здачы экзаменаў і за лабараторна-практычныя заняткі.

### Выпадкова зладзіла пажар

Пенсіянерка з Магілёва па неасцярожнасці спаліла чатыры дамы. Жанчына паліла смецце, агонь перакінуўся на жылыя будынкі. Цяпер ёй пагражае крымінальная адказнасць.

### Пажартаваў пра бомбу

Жыхар Гродна прыйшоў у будынак суда і заявіў, што ў яго бомба. Мужчыну затрымалі, але высветлілася, што ён проста пажартаваў. Распачалі крымінальную справу, і жартаўнік можа атрымаць як штраф, так і да 5 гадоў пазбаўлення волі.

### Пасварыўся і падпаліў

У Буда-Кашалёўскім раёне мужчына пасля сваркі падпаліў сваю суседку. Абое былі нападпітку. Жанчына трапіла ў рэанімацыю, мужчына — за краты.

### Зняў штаны — сеў у турму

П'яны жыхар Гомеля агаліўся на аўтобусным прыпынку. Да яго падышлі цыганкі і прапанавалі пагадаць. У адказ мужчына паказаў ім аголены зад. Відавочцы выклікалі міліцыю, у выніку мужчына атрымаў год і тры месяцы калоніі. Да таго ж яго прымусова будуць лячыць ад алкагалізму.

**УШ**

# Антон Матолька: Беларусь — гэта Еўропа!

Асобай года ў намінацыі «Грамадская чыннасць» «Наша Ніва» прызнала 27-гадовага **блогера**, **фатографа** Антона Матольку.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Матолька — адзін з найбольш актыўных блогераў краіны, які не баіцца ўздымаць грамадска важныя тэмы. Як лакальныя — праблема паркоўкі на вуліцы Рэвалюцыйнай у Мінску, — гэтак і нацыянальныя.

Напрыклад, Матолька звяртаўся да кіраўніка МУС Ігара Шуневіча з прапановай дазволіць выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяг на футбольных матчах.

Перад выбарамі Матолька звяртаўся да студэнтаў, каб яны не хадзілі на датэрміновае галасаванне.

З апошніх ініцыятываў — прагляд лекцыі Алексіевіч у кавярнях і рэстаранах, а таксама закрыццё мяжы з Расіяй, каб спыніць паток наркотыкаў.

«НН» сустрэлася з Матолькам у адной з кавярняў у Верхнім горадзе.

**«Наша Ніва»: Хто такі Антон Матолька: блогер, фатограф, урбаніст?**

**Антон Матолька:** А чаму нельга проста сказаць: беларус, мінчук. Магу яшчэ сказаць «тутэйшы». У мяне на першай візітоўцы было напісана проста: «Антон Матолька» і тэлефон, больш нічога.

**«НН»: У цябе рэпутацыя гламурнага, «няшнага» фатографа…**

**АМ:** Я не ведаю, адкуль гэта ўзялося. Я няшмат здымаў моды, не здымаў ню. Толькі паказы на «Тыдні моды». Адкуль гэтае гламурнае таўро — я не разумею. Мне да гламуру вельмі далёка. Ведаеце, у 2011 годзе я здымаў зусім не гламур, і на Нямізе падчас патопаў таксама не гламур.

**«НН»: 2011 год, калі ты здымаў маўклівыя акцыі і іх разгон, быў для цябе паваротны?**

**АМ:** Не, для мяне паваротным быў 2006. Я тады пазнаёміўся з нашай апазіцыяй, пратэстамі. Я даведаўся, што ёсць людзі, не згодныя з дзеяннямі нашых уладаў. Прычым гэта не адмарозкі, а інтэлігенцыя, бізнэсмены. У той год я быў на Плошчы. Вельмі здзівіўся, што мяне не затрымалі, калі я вешаў сцяг на флагштоку побач з Палацам прафсаюзаў.

**«НН»: Ты праяўляеш вялікую актыўнасць у інтэрнэце, пішаш шмат скаргаў у дзяржаўныя ўстановы. Гэта дае плён?**

**АМ:** Дае. Шмат хто не ведае, што простыя праблемы — зрабіць пешаходны пераход, адрамантаваць ліхтары — можна вырашаць электроннымі зваротамі. У дзяржавы, у ЖКГ вочы не паўсюль — яны не могуць ведаць усе праблемы. Неяк адзін гарадскі чыноўнік мне казаў, што яны самі зацікаўленыя ў такіх зваротах. Скаргі, ныццё — гэта найперш інфармаванне.

Калі казаць пра «вялікія» звароты, як пра бел-чырвона-белы сцяг ці да Міністэрства адукацыі аб выключэннях студэнтаў, то адзін зварот нічога не вырашыць. Але калі дзяўбеш у сцяну, звяртаюць увагу СМІ, то нешта прабіць магчыма. Той жа міністр Шуневіч цяпер кажа, што б-ч-б — гэта не забароненая сімволіка.

**«НН»: Ты ставіш перад сабой мэту зрабіць Мінск лепшым?**

**АМ:** Само сабой. І Беларусь, і Мінск. У мяне ёсць дзясяткі магчымасцяў з’ехаць з краіны, я шмат падарожнічаю. Але я хачу, каб мае дзеці нарадзіліся тут і засталіся жыць тут. Мне падабаецца Беларусь, мне падабаецца Мінск.

**«НН»: А што галоўнае трэба сёння змяняць у Беларусі?**

**АМ:** Людзей. Не факт, што аднаго чалавека. Адэкватныя людзі ёсць і пры ўладзе. Але ёсць неадэкватныя, тыя, хто не прымае нічога новага, і сярод нас… Ой, не хачу далей працягваць гэтую тэму.

**«НН»: Чаму? Давай.**

**АМ:** Я проста вельмі не хачу, каб мяне асацыявалі з паркоўкамі. У рэальнасці я вельмі мала раблю па гэтай праблеме, але ўсе асацыююць з паркоўкамі. Гэта жэсць. Усё вырашаецца простым правілам: непазбежнасць пакарання для ўсіх, хто няправільна паркуецца. Гэта вырашыць пытанне з парушальнікамі за паўгода. Парушаць будзе дорага.

**«НН»: А чаго яшчэ не стае?**

**АМ:** Дробных лакальных ініцыятываў. Не хапае выбарнасці мэра.

**«НН»: Ты сустракаўся са старшынёй Мінгарвыканкама Шорцам. Якое ўражанне ён пакінуў?**

**АМ:** Я прывяду прыклад, які характарызуе нашу сустрэчу. Я хацеў, каб гэты чалавек выйшаў у сацыяльныя сеткі. Каб незадаволенасць, спрэчкі можна было падаўляць не навінамі ў СМІ, а праз звароты да галавы горада, да яго намеснікаў, многія з якіх цудоўна карыстаюцца айпадамі, як Карпенка з аддзела ідэалогіі. Праходзіць два месяцы, і я даведваюся, што Мінгарвыканкам рассылае ва ўсе раёны сталіцы абавязалаўку завесці старонку ў сацыяльных сетках. Прабачце, а нахрана? Калі адміністрацыя Маскоўскага раёна можа адкрыць старонку ў фэйсбуку, калі яны хочуць гэтым займацца, але праз указіўку зверху гэта працаваць не будзе. У Мінгарвыканкама з’явілася старонка твітара, але там посціцца толькі навіны, ніякага дыялогу няма, ніякай магчымасці зваротнай сувязі няма.

**«НН»: У МУС вельмі актыўны твітар, але сама структура праз гэта не змяняецца.**

**АМ:** У выпадку з МУС — так. Але там трэба мяняць не працу з сацсеткамі, а навучанне з нізоў. Трэба рабіць рэформу. Хаця не, не так: там слова «рэформа» страшэнна баяцца, трэба рабіць «удасканаленне». Украіна паказвае цудоўны прыклад з новай паліцыяй, з відэафіксацыяй, добразычлівасцю. Нам гэтага не хапае.

Вось апошні прыклад, калі прынялі дзяўчыну за злодзейку, абражалі яе. А навошта? Гэтая дзяўчына вас, што, паб’е, адбярэ зброю?

**«НН»: У Мінгарвыканкаме ёсць з кім працаваць?**

**АМ:** Некаторыя мае прапановы там былі пачутыя, хоць я і не магу гэта пацвердзіць. Многія яшчэ ў 2015 годзе лічаць, што інтэрнэт — гэта алкаголь, наркотыкі, вычварэнствы, парнуха. І ўсё. Але інтэрнэт — гэта інструмент для рашэння задач. Цяпер адным пастом у фэйсбуку ты можаш падняць такую вострасацыяльную праблему, пра якую не піша ніводзін СМІ. Я не ведаю, колькі нашы чыноўнікі будуць адпірацца ад сацыяльных сетак, але яны да гэта прыйдуць. Нават Масква ў гэтым кірунку прасунулася, хоць праблем там непараўнальна больш, чым у Мінску. Мінск — горад маленькі…

**«НН»: Нішто сабе маленькі, адзін з найбольшых гарадоў Еўропы.**

**АМ:** Проста гэта нескладаны горад. Тут аднароднае насельніцтва, тут няма этнічных раёнаў. Праблема Мінска — гэта праблема Беларусі. З Мінска зрабілі пуп зямлі, усе сюды едуць. А можна было б зрабіць Заслаўе — горад універсітэтаў, Слонім — горад айцішнікаў. Айцішнікам насамрэч няважна, дзе жыць. Усе рухаюцца ў Мінск, а ў Мінску ўсе рухаюцца ў цэнтр. Адсюль гэтыя заторы пастаянныя. На Багушэвіча хочуць збудаваць яшчэ адзін гандлёвы цэнтр. Прабачце, там і так задніца, што ні прайсці ні праехаць.

Вось жанчына адкрыла кавярню *Moulin* у Малінаўцы. Гэта нятанная кандытарская. Папіць кавы і з’есці піроўнае на дваіх будзе каштаваць каля 150 тысяч. Пры гэтым там увесь час сядзяць людзі. Бо ў Малінаўцы няма выбару. У нас усе пхнуцца ў цэнтр, а ўскраіны пустыя.

**«НН»: А ты б сам у Оршу ці Кобрын паехаў?**

**АМ:** Калі б я быў адтуль родам, то вярнуўся б. Я б паехаў на сваю радзіму. У Галандыі я бачыў знаёмага, які родам з Рагачова. Ён расказваў, як спрабаваў зрабіць у родным горадзе свята згушчонкі. Ён разумеў, што з гэтага можна зрабіць някепскую падзею, куды б прыязджалі з Расіі, Украіны. Але ўсё ўперлася ў мясцовых чыноўнікаў. Ён быў гатовы вяртацца, людзі ёсць. Іх не павінна быць многа. У 1920-я людзей, што прасоўвалі беларускую нацыянальную культуру, таксама не было шмат.

**«НН»: Што зрабіць, каб у Мінск прыязджалі турысты не толькі з Расіі?**

**АМ:** Усё проста: адмяніць уязныя візы.

**«НН»: І чым Мінск зацікавіць? Тут няма гістарычнай спадчыны, тут дарагія рэстараны.**

**АМ:** Замежнікі ўспрымаюць па-іншаму. Беларусь для еўрапейца — гэта такая *terra incognita*, белая пляма. Замежнікі ведаюць пра Алексіевіч, Лукашэнку, Чарнобыль, Азаранку, БАТЭ. Самыя прасунутыя ведаюць пра балоты, кухню. Сюды прыедуць тыя, хто нічога не ведае пра Беларусь. Калі ім спадабаецца, то будуць ездзіць далей. А замежнікам сапраўды падабаецца Беларусь. Яны кажуць, што ў нас ашаламляльная краіна. І амаль усе хочуць вярнуцца.

Мы ставімся да нашай краіны крыху паблажліва. Маўляў, ну што такое Беларусь? Гэта вайна-

вайна-вайна. А ўсе замежнікі — гэта тыя, хто праходзіць транзітам падчас вайны. Цяпер жа замежнікі гатовыя ехаць сюды не транзітам, піць піва, весяліцца. Чэмпіянат свету па хакеі тут добры прыклад. Мне спадабалася тады атмасфера ў горадзе, горад ажыў. Сёлета Мінск з усялякімі фестывалямі, адкрытымі кафэ ўвогуле згадаў, што ён еўрапейскі горад.

**«НН»: А яшчэ метала-шукальнікамі на джазавых вечарах…**

**АМ:** Спачатку ж іх не было. Здаецца, арганізатары проста абалдзелі ад той колькасці людзей, якія хацелі прыйсці паслухаць музыку. Праблема ў тым, што толькі там можна было паслухаць джаз. Міліцыя павінна бачыць у кожным наведвальніку госця, кліента, а не патэнцыйнага злачынцу. Ахова павінна быць, але яна павінна быць ненавязлівай, выбарачнай. Не патрэбна ў маёй 64-гадовай мамы правяраць заплечнік. Гэта нейк дзіўна.

**«НН»: Правяраць выбарачна, як у метро?**

**АМ:** Як у Кітаі. Там аграмадны трафік у метро, ёсць сканеры, але пры гэтым не ўтвараецца чэргаў. Усе кладуць сумкі на праверку, а праз 10 секунд забіраюць, ніякай затрымкі. Няма такога дурдома, як у Мінску. Пры гэтым там 100%-ая праверка. Які сэнс ад нашай праверкі, я не разумею.

Адным чалавекам шмат гадоў таму было сказана: «Мы пойдзем сваім шляхам». І гэта было ўспрынята літаральна. Замест таго, каб капіяваць удалыя рашэнні, мы прыдумляем уласныя ровары. Гэта ж тычыцца аплаты транспарту ў аўтобусах і тралейбусах. Ды купіце вы кітайскую сістэму, адаптуйце пад Беларусь! Гэта ж нашмат танней, чым распрацоўваць уласную сістэму.

**«НН»: Трошку вернемся да турызму…**

**АМ:** Я сам хацеў дагаварыць. Вось паглядзіце, колькі людзей стала прыязджаць у Вільню, калі туды сталі лётаць лаўкосты. Калі адмяніць візы, то лаўкосты сапраўды зацікавяцца лётаць сюды. Беларусь робіць пакуль усё, каб турыстаў тут не было. Трэба ўсміхацца, адпавядаць чаканням еўрапейцаў, размаўляць па-англійску. А то бачыш, як пытаюцца на мяжы па-руску: «Віза твая гдзе? Я спрашываю, гдзе віза?» І такую гісторыю я чую кожныя паўгода.

Калі я быў на Балі, дзе ёсць пляжы, пальмы, храмы, то супрацоўнік мяжы пытаецца ў мяне з усмешкай: на колькі ты да нас прыязджаеш? На тыдзень. А чаму так мала? Я звыкся, што я з Беларусі і мяне падазраюць у тым, што я хачу дзесьці застацца. Памежнік жа кажа: «Прыязджай на больш тэрмін, тут класна». На зваротнай дарозе сустракаю таго ж памежніка, які распытвае мяне, што спадабалася, раіць, куды з'ездзіць наступны раз. А грузіны на ўездзе ў краіну даюць табе бутэльку віна. Грузія за 11 гадоў зрабіла каласальныя крокі ў турызме, там канфортна падарожнічаць, там шыкоўныя турыстычныя цэнтры. А ведаеш, дзе турыстычны цэнтр у Мінску?

**«НН»: Дзесьці ў Верхнім горадзе. Дзе дакладна — не скажу.**

**АМ:** У дварах ці то на Рэвалюцыйнай, ці то Інтэрнацыянальнай. Прычым, калі я не памыляюся, ён працуе з панядзелка па пятніцу, а субота і нядзеля выхадныя. Гэтак жа нашы музеі працуюць ад 7 раніцы да 5 вечара. Хлопцы, вы сур'ёзна? Які турыст паедзе ў сядзібу Красны Бераг пад Жлобінам а 7-й раніцы?

**«НН»: Ты часта згадваеш Кітай у якасці прыкладу. Нам сапраўды ёсць чаму вучыцца ў Кітая?**

**АМ:** Ужо так. Ад вядзення бізнэсу і нават да свабоды словы. Калі я прылячу першы раз у Кітай, то чакаў пабачыць закрытую краіну, дзе не працуе інтэрнэт. А насамрэч Кітай гадоў на 10 абагнаў Еўропу, а Беларусь увогуле засталася ў мінулым стагоддзі. Летась я зноў быў у Кітаі, і яны зноў моцна вырваліся наперад. Банальны прыклад інтэрнэт-крамы *Aliexpress*, якой усе карыстаюцца. Транспартная сістэма там цудоўная і простая. У Кітаі вельмі развіты ўнутраны турызм. У нас гэта нават не разглядаецца нікім. Неяк мы прыехалі ў Мёры на балота Ельня — шалёна прыгожае месца. Мне здаецца, што гэта залатая жыла для турыстаў з Беларусі, Латвіі і Літвы, але дзе пераначаваць? У раённай гасцініцы ўзровень ніжэй за плінтус. І ўказальніка няма, як дабрацца да балота, да той сцежкі, дзе прагуляцца. 95% беларусаў нават пра гэтае месца ніколі не чулі.

Чаму нашы чыноўнікі так неахвотна ўсё робяць? У іх вялізныя пенсіі. А ініцыятыва пакараная, усе баяцца за сваю задніцу, любыя новаўвядзенні выклікаюць страх. Вось да нас прыйшло таксі *Uber*. Здавалася б, клас! Усе падумалі: ваў, таксі стане таннейшым і зручнейшым. Аказваецца, у нас ёсць заканадаўства, якое замінае, каб у нас з'явіўся *Uber X*. Таму ў нас ёсць толькі *Uber Black* для багатых людзей. Па ідэі, Міністэрства транспарту павінна памяняць заканадаўства. І дзе гэта? Нідзе!

**«НН»: Ты заклікаў уладальнікаў кавярняў і рэстаранаў арганізаваць прагляд лекцыі Святланы Алексіевіч. Многія адгукнуліся?**

**АМ:** Шмат у каго банальна няма тэлевізараў. Ніхто не сказаў не. Гэта важна. Мне здаецца, што нямала адгукнулася, яны падзякавалі за прапанову. Я лічу гэта станоўчым досведам. Рэакцыя ўладальнікаў рэстаранаў мне спадабалася. Мой касяк, вядома, быў, што я не прапанаваў гэта KFC ці «Бургер Кінгу».

**«НН»: Як табе рэакцыі на прысуджэння Алексіевіч Нобеля?**

**АМ:** Гэта трындзец! Наша дзяржава заняла пазіцыю ігнаравання, непрыгожы ігнор. Можна было б банальна асвятляць у СМІ. Сорам! Гэтыя вядучыя пасля такога павінны сысці з журналістыкі. Алексіевіч зрабіла для Беларусі больш, чым Міністэрства культуры за 24 гады. Васіль Быкаў зрабіў больш. Алексіевіч — гэта цудоўная магчымасць заклікаць сюды турыстаў, палепшыць імідж краіны. Што рабіла ўлада? Ігнаравала! Ігнаравала! Ігнаравала! І гнабіла.

А тое, што было абмеркаванне яе выступу, кніг, то гэта здорава. Быў дыялог, якога нам так не хапала. Ігнараваць можна было раней, калі не было інтэрнэту — цяпер так дзейнічаць нельга.

**«НН»: Апошняя твая прапанова тычылася закрыцця граніцы з Расіяй, зрабіць гэтую мяжу сапраўднай.**

**АМ:** Я даўно пра гэта кажу. Ад пачатку вайны ва Украіне. Я хачу, каб гэтае пытанне задалі Лукашэнку на прэс-канферэнцыі. Гэтае пытанне да яго трэба данесці з боку барацьбы з наркаманіяй, якую ён вядзе. Калі гаварыць пра кантроль тавараў, то можа быць успрынята інакш. А свабодны доступ да наркотыкаў ідзе якраз з Расіі. Тэма наркотыкаў адназначная.

**«НН»: Мінск, Беларусь усё ж становяцца еўрапейскімі?**

**АМ:** Становяцца нягледзячы ні на што. Бо Беларусь — гэта Еўропа.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Героі моладзі — блогер Ігар Лосік @belamova

**Самыя папулярныя ў моладзевым інтэрнэт-асяродку асобы — інтэрнэт-блогеры. Адзін з такіх баявых блогераў — гэта Ігар Лосік з Баранавіч, якога ў твітары чытае больш за 90 тысяч чалавек. 90 тысяч! Больш чым газету! Што гэта за чалавек?**



Ігар Лосік са сваёй жонкай Дар'яй.

Як кажа пра сябе 23-гадовы Ігар, ён самы звычайны хлопец, у якога бацькі інжынеры, а дзяды — сяляне.

«Дзяцінства прайшло звычайна: урокі прагульваў, гойсаў у двары, на лета ездзіў да бабулі пад Браслаў. Цяперака там мо нікога і няма ўжо, акрамя «алкаты». Таксама мой пра-пра-прадзед быў пісарам у Кацярыны ІІ», — скупа расказвае пра сябе Беламова.

Хлопец адвучыўся на выкладчыка замежнай мовы ў БарДУ, там жа ў 20 гадоў знайшоў сабе жонку.

«Яшчэ да таго, як завесці твітар, я актыўнічаў у сацыяльных сетках, — прыгадвае Ігар. — Першы такі досвед скончыўся гутаркай з супрацоўнікамі КДБ. У 2011 годзе, калі ўсё кацілася ў тартарары, Дыянаў стварыў рух «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» і папрасіў усіх удзельнікаў прыдумаць, як без крыві змагацца з уладамі. Я тады зрабіў прапанову: а што, калі мірна збірацца на галоўнай плошчы горада штосераду? Дыянаву ідэя спадабалася, ён зрабіў мяне адміністратарам суполак, і мы пачалі раскручваць заду-му. У выніку людзей пачало шмат выходзіць, і ў міліцыі не было падставаў іх затрымліваць. Калі ўжо пачалі выходзіць не толькі ў Мінску, а ў Баранавічах, Лепелі, Гродне, гэтым шчыльна заняліся ў КДБ. Вылічвалі адміністратараў суполак, прыходзілі дахаты, ціснулі. Вылічылі і мяне, я тады вучыўся на першым курсе, кінулі на стол усю маю перапіску «УКантакце», дзе я лайкі ставіў, дзе што каментаваў. Але яны не ведалі, што я быў аўтарам ідэі, таму толькі прыгразілі, што ў маіх бацькоў будуць праблемы на рабоце, а я сяду ў турму, калі не спынюся. Так «абясшкодзілі» мяне, а потым і ўсіх астатніх. Бо планавалася, што на 3 Ліпеня будзе выступаць Лукашэнка, мы зробім анонс, выйдзе шмат людзей і яго асвішчуць, але мы да таго моманту не дацягнулі, пратэст зліўся».

Пасля Ігар яшчэ раз спрабаваў зрабіць штосьці «УКантакце» і стварыў суполку, дзе жартаваў пра беларускую палітыку. Але як толькі там набралася 4 тысячы падпісантаў, да хлопца зноў прыехалі з КДБ, але ўжо мінскага, і зноў «папрасілі» спыніцца, пагражаючы рэпрэсіямі.

Пасля гэтага, маўляў, Ігар і завёў твітар-акаўнт @belamova. Пра што пісаць — якраз пачалася «Балотная».

«Я пісаў аб пратэстах у Маскве, посціў карцінкі з відэа, гэта заўважыў папулярны расійскі блогер Кашын і пачаў на мяне спасылацца. Потым я пажартаваў і стварыў фэйкавы акаўнт Саладухі, на што паявіліся ўсе беларускія СМІ. Менавіта так я і раскруціўся», — кажа Беламова і дадае, што пік ягонай папулярнасці прыпаў на часы Майдану і пачатку вайны ва Украіне.

«Пісаў пра Майдан, але калі Расія акупавала Крым, то сапраўды спалохаўся, што такое ж можа адбыцца з Беларуссю», — прызнаецца Ігар і расказвае, як яго абурыла расійская прапаганда

«Гэтыя гісторыі пра ўкрыжаваных хлопчыкаў, іншы плот з лебяды, ад якога шалеюць людзі... Я глядзеў расійскія каналы і афігеваў проста. Тады зразумеў, што ў нас павінна быць свая контрпрапаганда, альбо страцім мазгі моладзі. Пачаў выкрываць расійскую хлусню, зрабіў мінулым летам падборку фэйкаў расійскай прапаганды, якая шырока разышлася па свеце — шмат СМІ перадрукавалі, нават замежных», — кажа Ігар і дадае, што лічыць сябе прапагандыстам здаровага сэнсу, які выкалачвае «савок» з галоваў людзей.

«Але пасля Украіны неўзабаве падышла наша чарга — Расія заявіла, што размесціць тут базу. Людзі ж не разумеюць, што з гэтага пачынаюцца войны, таму мы з іншымі блогерамі падумалі і вырашылі запусціць у твітары хэштэг #norussianbaseinbelarus, каб данесці рызыку да ўсіх.

Ну і што? Гэта пашыралася, з'явіліся тысячы допісаў з гэтым тэгам «УКантакце», у інстаграме, твітары, фэйсбуку. А праз некалькі дзён Статкевіч зладзіў акцыю ў цэнтры Мінска, а яшчэ праз некалькі дзён Лукашэнка кажа, што гэтая база непатрэбна. Я думаю, што мы тым самым далі яму козыр у рукі ў перамовах з Крамлём: маўляў, Валодзя, ну ты ж бачыш, людзі супраць».

А потым уся краіна падтрымала ястрамбельскіх кадэтаў, якія апранулі майкі з «Пагоняй». Беламова і тут пашыраў допісы з хэштэгам #Пагоня-Побач у падтрымку хлопцаў. «Джон Сільвер з 1863x.com першы напісаў пра кадэтаў, а я падтрымаў. І ў выніку ўсе ведаюць, што праз інфармацыйную хвалю тую вучэльню завалілі лістамі, сотні беларусаў фоткаліся ў майках з нашым нацыянальным гербам, і ніводнага з кадэтаў не выключылі», — кажа Ігар і працягвае далей пра сваіх калег.

«Увогуле, той жа Джон Сільвер — вялікая павага яму. Я бачыўся з ім асабіста і ведаю, што ён вельмі пацярпеў ад спецслужбаў, нават у псіхушцы давялося пасядзець. Цяпер ён жыве ў Кіеве, не салодка там яму. Антон Матолька таксама добры хлопец. Увогуле, я мяркую, што нашае грамадства само здольна нараджаць актыўных і крэатыўных людзей, якія не дадуць Беларусі знікнуць. Гляньце хаця б на «Арт-сядзібу». Гэтыя хлопцы за адзін год вярнулі моду на ўсё нацыянальнае. Я нават у Баранавічах летам бачыў моладзь у саколках з «Пагоняй», у вышыванках і з беларускімі стужкамі», — перакананы Ігар.

На скончэнне хлопец дадае, што ў будучыні хоча быць журналістам і надалей працаваць для папулярызацыі беларушчыны. Але ён не русафоб, як многія кажуць.

«Для мяне ўсе людзі добрыя, я толькі ідэі не прымаю. Мяне называюць русафобам, але я пуцінафоб, у мяне фобія пуцінізму. Я не прымаю тых, што не лічыць Беларусь за краіну, хто называе нас рускімі. Такіх людзей у Беларусі не шмат, і мой абавязак іх выправіць. Будучыня за патрыётамі Беларусі, бо старыя «саўкі» хутка сыдуць — іх ужо сам час не прымае і выкідае на ўзбочыну, як гэта відаць ва Украіне. Я ўпэўнены, што мы створым сапраўдную еўрапейскую краіну».

**Гутарыў Арцём Гарбацэвіч**

# Падзеі года ў фотаздымках


REUTERS

Мінскі саміт даў Украіне надзею на мір.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У жніўні ў Беларусі назіралася анамальна гарачае надвор'е. На фота: актывісты Чырвонага Крыжа раздаюць мінакам пітную ваду.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У лістападзе пры дапамозе авіяцыі МНС ва Ушачах быў усталяваны валун на магіле Рыгора Барадуліна.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

4 лістапада Нацбанк абвясціў аб дэнамінацыі, якая мае адбыцца ў ліпені 2016 года.


КІРЫЛА ХІЛЬКО

«Яно». Магілёўская газета зрабіла пачварай сціплага вясковага транссэксуала.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

4 кастрычніка ў Мінску адбыўся народны сход супраць расійскай авіябазы.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У гарадах пачалі з'яўляцца буйныя творы стрыт-арту.



AP

Назіральніца Наталля Гарачка не ўстала перад Лукашэнкам на выбарчым участку.

# Хахлуха

Апавяданне. Піша **Андрусь Горват**.

У Шуры ёсць толькі сабака Палкан. Ён брэша на мяне здалёк, блізка падысці не асмельваецца.

— Палкан есці хоча, — кажу. — Ты б пакарміў яго.

— Мацьяго дыхала! Няхай падохне! То паскудны сабака.

— Дзядзька Валодзя казаў, што Палкан ваўкоў ганяе.

— Срэцца ён, а не ганяе. Пшоў! Пшоў!

Мы ўвайшлі ў кухню. Гадоў дзесяць таму памерла Шурава матка, то ён увесь час жыве адзін.

— Колькі ў цябе пакояў?

— Мо то тры. Ат, не ведаю! Я ў хату не хаджу. Там халодна. Я тут жыву.

Кухня падобна на гараж майго брата. Я ссунуў з прыслона ворах смярдзючых анучак, сеў.

— Скідай. Халера яго бяры. То цётка не прыбрала.

Раз на месяц да Шуры з Аўцюкоў ходзіць цётка, прыбірае ягонае кубло. Але Шура не любіць той дзень, бо цётка сварыцца.

— Ат, паскуда, як мой Палкан. Толькі брэша. Укусіла б, дык забіў бы.

Шура дзьме ў шклянкі, каб вылецела смецце, працірае іх засаленай анучай.

— Зараз вып'ем. Гэта маё, сам гнаў. Недзе агурок быў. Не, дзядзька, я агуркі ў суботу з'еў, выбачай. На, хлебам занюхай.

Мне піць не хочацца. Але мушу хаця б выгляд рабіць, што п'ю, бо Шураў нораў добра ведаю. Мужык ён спакойны, а потым як храсне па галаве — і не паспееш з хаты выбегчы.

— Зламала мне ўсё жыццё тая хахлушка. Але нічога, жыву не горай за іншых. Хата е, рукі е, галава е.

Пра якую хахлушку ён гавора, я яшчэ не разумею, але ўжо здагадваюся, што сёння мы п'ём пад размовы пра жанчын.

На кухні цёмна. Адзінае невялічкае акенца выходзіць на поўнач. Лямпачка пад столлю свеціць цьмяна. Гнілое паветра становіцца цяжкім ад смуродных Шуравых цыгарэт. Але я сяджу і цярпліва трымаю ў руках шклянку. Шура выпівае мо то трэцюю.

— А-а-а, я табе ўжо наліў? — далівае толькі сабе.

Сядзім моўчкі. Цішыня становіцца невыноснай, але я не намагаюся яе парушыць. Шура доўга глядзіць на нож, што ляжыць на стале. Я думаю: вось скончыцца цішыня, скажу далікатна, што хачу пайсці да ветру. І вазьму з сабой заплечнік. Пакуль Шура дацяміць, што я збег, я буду ўжо ў Аўцюках, то не дагоніць. А мо і не дазнаецца, упадзе і засне.

— Сука! — ён раптам б'е па стале кулаком.

Я разумею, што пайсці да ветру — ужо не хітрык, а тэрміновая патрэба.

— Усё жыццё мне спаганіла! Чаго прысунулася? Заб'ю, сука!

У нашай размове настае той момант, калі дыялог узнікае паміж Шурам і ягоным нябачным суразмоўцам. А я станаўлюся выпадковым сведкам, які мае шанец за подслух быць пабітым. І сеў жа так нязручна — Шуру ніяк не абмінуць, калі раптам давядзецца бегчы.

— Заб'ю, хахлуха!

Алеся — ніякая не хахлуха. Яна з аўцюкоўскіх дзевак. Калі Шура ў войска пайшоў служыць, яна выскачыла за ўкраінца і з'ехала да яго пад Чарнігаў. Шура вярнуўся і забыўся, што такая была. Пачаў ездзіць на трактары, да дзевак чапляцца. Калі халодна, то ў качагарку іх вадзіў, а калі цёпленька, то ў хвойнічак. Рукамі ўмеў не толькі аўцючак мацаць, мог з трактара зрабіць верталёт і паляцець на ім. То ягоная матка — тады яшчэ жывая была — не сумнявалася, што сына некалі ўчэпіць самая спрытная аўцючка і не адчэпіцца ад яго. То будзе лад, як ва ўсіх. Усе хлопцы так — гуляюць, гуляюць, а потым:

— Матко, рэж кабанчыка, бо я жанюся.

— Жаніся, сынку, дай вам Божанька шчасцейка ды дзетак здаровенькіх. Ды каб сонейка ў вашыя вокны пазірала.

А пакуль учэпістая аўцючка не патрапілася, Шура гуляў, колькі хацелася маладому целу.

Але вярнулася ў вёску тая Алеся. Гадоў мо шэсць ці сем яе не было. А тут прыехала з чамаданам да сваіх бацькоў. Быццам бы муж прагнаў яе з хаты. А людзі не дурныя былі, вушастыя, то і дачуліся, што мужык ейны памёр.

Шура на трактары ехаў, а тут Алеся шлях пераходзіла. Зірнула на яго — Шура і зніякавеў.

Матка вечарам баршчу наліла, хлопец есці не стаў. Ранкам памыўся і паехаў да Алесі. Стаў ля хаты, дзе яна жыла. Хвілінаў праз пятнаццаць Алеся выйшла, ізноў зірнула на яго.

— Ты, Шура, мо хочаш мяне на сваім трактары пакатаць? То ў мяне спадніца непрыгожая. А трактар у цябе — вунь які прыгожы.

Шура згубіўся ды моўчкі з'ехаў.

З тых часоў яго бы падмянілі. Перастаў вадзіць дзевак у хвойнік. Пасля працы ехаў дадому. Стаў маўчаць ды нешта сабе думаць.

З'явіўся ў Шуры сакрэт. За хлявом пад навесам ён выразаў з вялікай калоды Алесін бюст. Калі той быў амаль гатовы, суседскія хлапчукі ўгледзелі ды пусцілі плётку па вёсцы: Шура закахаўся ў Алеську і хоча ёй помнік з фантанам паставіць пасярод двара. Ён так раззлаваўся ў той дзень, што сякерай раздроб бюст і спаліў.

А аднойчы моцна напіўся, прыйшоў да Алесінага акна, каб прызнацца ва ўсім, але не хапіла смеласці — і Шура заплакаў. А яна неяк угледзела тое і назаўтра пасмяялася з яго:

— Ты, Шура, калі яшчэ плакаць захочаш, то прыходзь. Толькі не пад вокнамі плач. А ў агародзе, бо памідоры сохнуць.

Шура стаў піць часцей. Матка глядзела-глядзела на яго хваробу, ды не вытрывала — памерла. А Алеся доўга ў вёсцы не ўседзела, пайшла на нейкія курсы і з'ехала ў Каленкавічы.

Я глядзеў на сваю пустую шклянку і думаў, што ўжо не баюся Шуру. Ужо не страшны ён. Не можа быць страшным чалавек, які носіць пад сэрцам боль.

— Я табе пакажу яе.

Шура падняўся з табурэта, але не ўстаяў і ўпаў. Я дапамог яму падняцца.

— Нармальна, нармальна, дзядзька. Я шчэ не п'яны.

Ён пакорпаўся ў анучах на печы і дастаў адтуль невялікую фотакартку. З яе пaглядала маладая ўсмешлівая дзяўчына.

— Во, глядзі якая паскуда.

— Прыгожая.

— Х*ёжая! То паскуда!

— Я і бачу, што ты спіш з ёю на адной печы.

— Ты, дзядзька, мусіць, даўно аўцюкоўскага кулака блізка не бачыў? То я пакажу табе.

Не, не можа быць страшным чалавек, які носіць пад сэрцам боль.

Заначаваў я ў дзядзькі Валодзі. Ноччу сасніў Алесю. Мы елі памідоры ў агародзе, а Шура стаяў там нібы пудзіла і плакаў.

Зранку пайшоў я на аўтобусны прыпынак. Палкан здалёк пачаў прыветліва брахаць на мяне. Шура неспакойна мераў крокамі даўжыню бардзюра. Ён быў памыты і паголены. Пах адэкалона перабіваў пах хвояў у лесе.

Мяне Шура не пазнаў, бо быў цвярозы, але падобны на брагу: нешта ўнутры яго бурліла, не давала стаяць на адным месцы.

Бы чужыя адзін аднаму, мы моўчкі ўглядаліся ў сіні плот, скуль мусіў павярнуць аўтобус на Каленкавічы.

**З пошты Рэдакцыі**

## «Калі жанчына кажа «не»...

«Калі жанчына кажа «не» — гэта значыць «можа быць».

Калі жанчына кажа «можа быць» — гэта значыць «так».

Калі жанчына кажа «так» — гэта не жанчына», — сказаў нейкі жартаўнік.

Прыходжу сёння ў падатковую інспекцыю ў Докшыцах. Кажу, хачу заплаціць падатак за тое, што яшчэ не памёр. Ці, юрыдычна, збор на фінансаванне дзяржаўных расходаў. Пакуль базавая велічыня не вырасла.

— Мы не знаем... Никто ещё не платил... Начальника нет, она на собрании в Витебске. Может, сможете прийти в другой раз?

— Не, — кажу, — я хворы і мне цяжка ў Докшыцы ездзіць. — Давайце сёння.

— Вы сегодня ещё будете в Докшицах? Оставьте свой телефон, мы постараемся узнать и перезвоним вам после обеда.

— Дык дакумент аб датэрміновай выплаце збору быў прыняты і напэўна быў Вам дасланы. Некаторыя людзі ўжо заплацілі...

— Ладно, я сейчас спрошу.

Хвілін за дзесяць супрацоўніца знайшла бланкі патрэбных дакументаў, яшчэ за пятнаццаць усё афармілі і я атрымаў нумар банкаўскага рахунку і код плацяжу.

— Другое пытанне, — кажу, — хачу зарэгістравацца як рамеснік. — Буду кошыкі з лазы плясці.

— Мы не знаем. Работник, за это ответственный, в Витебске на совещании. Законодательство о ремесленной деятельности сейчас меняется, мы не знаем, как и что. Вот сегодня на семинаре об этом будут говорить, тогда будем знать... Может, позже подойдёте?

— Слухайце, — кажу, — закон, які рэгулюе рамесніцкую дзейнасць, не першы дзень існуе. І нават не першы год. Зарэгіструйце. Збор мне трэба заплаціць да 28 снежня, часу ўжо няма...

Жанчынка саступіла зноў. Пайшла параілася з калегамі, знайшла ўзор заявы. У камп'ютаровай базе знайшлі і пералік відаў рамеснай дзейнасці, прадугледжанай законам. Тут я перадумаў плесці кошыкі і вырашыў, што наступны год буду вязаць венікі. Пра што і напісаў у заяве.

Урэшце, ладжанне справаў з падатковай інспекцыяй, разам з паходам у банк, аплатай і адданнем квітанцый, заняло ў мяне менш як дзве гадзіны. Магло б заняць і некалькі дзён, калі б не ўгаворваў.

Калі кіравацца катэгорыямі аўтара вышэй цытаванага анекдота, то супрацоўніцы докшыцкай падатковай — сапраўдныя жанчыны.

**Кастусь Шыталь, Докшыцкі раён**




«Міс свету — 2015» стала Мірэя Лалагуна Роя з Іспаніі. Другое месца дасталася 22-гадовай прадстаўніцы Расіі Сафіі Нікітчук. «Міс свету» — адзін з найстарэйшых конкурсаў прыгажосці. Упершыню ён прайшоў у Вялікабрытаніі ў 1951 годзе. Сёлета спаборніцтва прыгажунь адбылося ў кітайскім горадзе Санья на востраве Хайнань. У ім узялі ўдзел дзяўчыны з 110 краін свету. У 2015 годзе Беларусь у конкурсе не ўдзельнічала.



21 снежня ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося адкрыццё выставы «Гоя… Пікаса», на якой гледачы пабачаць 80 гравюр Гоі і 15 работ Пікаса. Сама працэдура ўрачыстага адкрыцця затрымалася, бо чакалі ганаровага госця, галоўнага сенатара Міхаіла Мясніковіча. Былі таксама былыя міністры замежных спраў Сяргей Мартынаў і Уладзімір Сянько, экс-пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын, былы віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік, пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка.



Мікола Статкевіч адзначыў 5-годдзе Плошчы маліраў. 19 снежня аб 11-й гадзіне ён разам з жонкай і яшчэ некалькімі актывістамі прыйшоў у Свята-Петрапаўлаўскі сабор, дзе памаліўся.




Усе міністры замежных спраў незалежнай Беларусі сабраліся разам на імпрэзе ў МЗС. Злева направа: Урал Латыпаў, Сяргей Мартынаў, Пятро Краўчанка, Уладзімір Макей, Іван Антановіч, Міхаіл Хвастоў, Уладзімір Сянько.



У Магілёве адкрылі памятны знак «Чэкістам Магілёўшчыны», на адкрыцці прысутнічаў кіраўнік КДБ Валерый Вакульчык. Журналістаў незалежных СМІ на імпэзу не пусцілі.



## Анекдоты і жарты

— Ты хто?
— Я — супервайзер лагістычнага тэрмінала!
— Грузчык?
— Ага.

* * *

Марс — гэта адзіная планета, цалкам населеная робатамі (каля сямі штук).

* * *

Міністэрства гандлю закрыла цір у цэнтры горада за некарэктную рэкламу: «Патронаў хопіць на ўсіх».

* * *

Закінуў беларус вуду ў Мінскае мора і выцягнуў залатую рыбку.
— Адпусці мяне, — заенчыла рыбка. — Я любое тваё жаданне выканаю.
— Цудоўна! — сказаў беларус. — Зрабі, каб у снежні было цёпла нібы ў маі.
— Летуценнік ты, дзед! Клімат ёсць клімат. Давай нешта больш рэальнае.
— Добра, — адказаў беларус. — Тады хачу пры жыцці ўбачыць у Беларусі не толькі першага, але і другога прэзідэнта.
— Дзед, мыслі сувымерна статусу, — спалохалася рыбка.
— Ну, тады хай ЖЭС зробіць рамонт у маім доме. Я ж з 1953 года на капрамонт грошы здаю!
— Каб табе трасцы, дзед! Май у снежні — дык май у снежні. Бывай!

**Шаноўныя чытачы, наступны нумар «НН» выйдзе 6 студзеня 2016 года. Вясёлых вам Калядаў і шчаслівага Новага года!**

## «НН» сто гадоў з вамі

**У гэтым месяцы ў Мінску** мае адбыцца з’езд саветаў Беларусі. На гэтым з’ездзе будзе ўхвалена Канстытуцыя Савецкай Беларусі і будзе разглядацца пытанне аб ратыфікацыі Рыжскай дамовы.

**«НН». №9. 1920.**

**Беларускі тэрарыст у «Аль-Кайдзе».** У панядзелак гішпанская паліцыя затрымала некалькі баевікоў-ісламістаў. Сярод іх аказаўся 30-гадовы ўраджэнец Беларусі Андрэй Місюра. Місюру, які лічыцца спецыялістам у галіне хімічнай зброі, вышуквала паліцыя шэрагу еўрапейскіх краін. Ён прайшоў вайсковую падрыхтоўку ў Чачні і Пакістане. Прыняў іслам і мае імя Амін аль-Ансары.

**«НН». №48. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.12.2015.
Замова №4830.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15048